6 лютага 2015 | № 5 (422)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Працаваць і працаваць!
стар. 3

5 ЗАСТОЙ НАМ ТОЛЬКІ СНІЦЦА
Аляксандр Лукашэнка, настальгаваў па часах Брэжнеўскага застою. Маўляў, нічога кепскага ў гэтым не было — наадварот, людзі мелі стабільнасць, атрымлівалі заробак, што яшчэ трэба

4 БЕЛАРУСКІЯ ГІМАЛАІ
Айчынная сацыяльна-эканамічная мадэль не мае патрэбы ў карэкціроўцы. Лічыцца, калі што і мяняць, дык сусветную эканоміку, якая не хоча нас падтрымліваць

11 ЧОРНАЯ СОТНЯ — 2
У Расіі на дзяржаўным узроўні вырашылі стварыць радыкальны рух «Антымайдан». Пра прыроду новага палітычнага суб'екта і яго перспектывы журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з маскоўскім калегам Дзмітрыем Люблiным




14 РЭЙД УПА Ў ЛІТВУ
Пасля заканчэння вайны на тэрыторыі Беларусі, Украіны і Прыбалтыкі актыўную дзейнасць разгарнулі розныя антысавецкія фарміраванні. Ва ўмовах падпольнай барацьбы ўкраінскія паўстанцы шукалі магчымасцяў аб'яднаць намаганні з літоўскімі «ляснымі братамі»

# Па грошы!

**Цікава, колькі грошай, калі і на якіх умовах атрымае Аляксандр Рыгоравіч? І ці атрымае наогул...**



Сяргей ПУЛЬША

Для аналітыкаў супрацьлеглыя заявы Аляксандра Рыгоравіча далі глебу для развагаў на паўмесяцы наперад. Даўшы шмат інфармацыйных падставаў, Лукашэнка з'ехаў на адпачынак у Сочы.

Паводле паведамлення прэс-службы Лукашэнкі, гэта адпачынак «кароткатэрміновы». Падчас яго беларускі правадыр «мае намер азнаёміцца з тым, як рэалізуюцца планы па развіцці беларускай спартыўна-турыстычнай базы, а таксама правесці шэраг сустрэч».

Варта зазначыць, што апошні раз Лукашэнка быў у адпачынку не так даўно — напрыканцы кастрычніка мінулага года. Праўда, ягоная прэс-служба падавала візіт у Абу-Дабі як «працоўны», але ў час працы кіраўнік Беларусі, напрыклад, наведаў мячэць, правёў сяброўскі хакейны матч з паміж камандай прэзідэнта Беларусі і ветэранамі зборнай Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў.

Наколькі візіт у ААЭ быў «працоўны», настолькі ж у Сочы Лукашэнка «адпачне». Прынамсі, ягоная прэс-служба казала пра «запланаваную» сустрэчу з Уладзімірам Пуціным. Гэта ж пацвердзіў і прэс-сакратар кіраўніка Расійскай Федэрацыі Дзмітрый Пяскоў. Паводле яго словаў, такая сустрэча сапраўды «рыхтуецца», дакладная дата яе не вядомая, а лідары дзвюх краінаў на ёй павінны абмеркаваць «пытанні двухбаковых адносінаў».

Перадумовы для такога абмеркавання стварыў сам Аляксандр Рыгоравіч. У снежні мінулага года ён выказаўся супраць правядзення самітаў АДКБ, ЕАЭС і Саюзнай дзяржавы ў адзін дзень. «Узяць у адзін дзень правесці мерапрыемствы — проста ўсё ў кучу скамячым і вынікаў не атрымаем», — матываваў ён. Таму гэтыя мерапрыемствы былі адкладзеныя.

Відавочна, што перамовы Лукашэнкі і Пуціна павінны зняць вострыя вуглы падчас гэтых самітаў. Лукашэнку трэба ведаць, чаго ўсё ж чакаць ад Расіі.

Найперш, гэта тычыцца нашага ўдзелу ў ЕАЭС. Наколькі зніжаныя кошты на нафту адаб'юцца на тых экспартных пошлінах, якія мы павінны атрымліваць у свой бюджэт, замест перадачы іх Расіі. Наколькі гэтыя пошліны знізіць расійскі падатковы манеўр — замена пошлінаў унутраным расійскім падаткам на здабычу карысных выкапняў? Лукашэнка таксама галасна запэўніваў на сваёй прэс-канферэнцыі, што ў выпадку чаго Расія Беларусь не кіне і будзе гатовая падставіць плячо. У сітуацыі, калі ўсе золатавалютныя рэзервы ў нас — 5 мільярдаў долараў, а сплаціць па знешніх пазыках нам трэба ў гэтым годзе 4 мільярды, гэты «выпадак чаго» настаў ужо ўчора.

З Расіяй мы дагэтуль бадаемся наконт «санкцый і контарсанкцый», як казаў Лукашэнка. Рассельгаснагляд перыядычна забараняе ўвоз нашай прадукцыі ў РФ: маўляў, дакументы не ў парадку альбо афрыканская свіная чума ў нашай каўбасе. Мы ж пакуль толькі агрызаемся. Днямі наш міністр сельскай гаспадаркі Леанід Заяц заявіў, што расійская методыка выяўлення геному АЧС ніяк не ўзаконеная, а Беларусь з-за харчовых войнаў страціла апошнім часам каля $300 мільёнаў.

Да таго ж, Аляксандру Рыгоравічу няблага было б паразмаўляць і наконт палітычнай пазіцыі Масквы ў маючых адбыцца падзеях. Пачатак гэтага года прэзідэнцкіх выбараў для




яго быў азмрочаны ўкідам ад імя расійскіх СМІ, што Крэмль яго больш падтрымліваць не будзе. Да таго ж, расійскі пасол у Беларусі Аляксандр Сурыкаў выказаў сумневы, што ў 2015-м годзе Лукашэнка будзе балатавацца на вышэйшую кіраўнічую пасаду. Зразумела, ад Лукашэнкі Сурыкаў атрымаў адлуп, але ўжо неаднаразова пацверджана: што ў Крамлі ў думках, тое ў Сурыкава на языку.

**Грошы ў абмен на пацалункі Лукашэнка атрымае**

Ва Уладзіміра Уладзіміравіча таксама назапасілася багата пытанняў да беларускага калегі. Найперш, калі Аляксандр Рыгоравіч канчаткова вызначыцца: чый Крым? Другое: што гэта за размовы такія былі падчас той жа прэс-канферэнцыі пра магчымы выхад Беларусі з ЕАЭС? Ну і, нарэшце, калі ўжо створацца тройчы абяцаныя на працягу пяці гадоў холдынгі кшталту «МАЗ-КамАЗ» і гэтак далей? Колькі ўжо можна вадзіць партнёраў за нос?

І самае цікавае, што «грошы ў абмен на пацалункі» Лукашэнка, хутчэй за ўсё, атрымае, лічыць міжнародны аглядальнік Андрэй Фёдараў. Па ягоным меркаванні, Уладзімір Пуцін наўрад ці можа зараз шмат запатрабаваць ад кіраўніка Беларусі. «Хіба што Пуцін можа патрабаваць калі не падтрымаць, то сцішыць крытыку з боку Мінска ва ўкраінскім пытанні. Пуцін можа вярнуцца да пытання холдынгаў, можа прасіць спыніць кантрабанду заходніх тавараў у Расію. Але ўсё гэта ўжо збольшага заціхла», — адзначае эксперт.

«Пакуль эканоміка Расіі не ў такім цяжкім стане, каб не падтрымаць свайго саюзніка. Калі ўжо міністр фінансаў Расіі Антон Сілуанаў заявіў, што Расія гатовая даць грошай Грэцыі, калі тая папросіць, то наконт Беларусі пытанняў няма», — мяркуе Фёдараў.

Адзінае пытанне, лічыць Фёдараў, гэта колькі грошай, калі і на якіх умовах Аляксандр Рыгоравіч атрымае. Вось тут можа весціся канкрэтная размова. Тым больш, што ўсім памятная сітуацыя мінулага года, калі Лукашэнка ў маі прывёз расійскі крэдыт «на працягу двух-трох тыдняў», а паступіў ён, насамрэч, напрыканцы верасня.

# Грамадзяне падалі ў суд на Адміністрацыю прэзідэнта

Марат ГАРАВЫ



**3 лютага дзевяць актывістаў грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры накіравалі ў суд Ленінскага раёна Мінска скаргу на неправамерныя дзеянні (бяздзеянне) дзяржаўнага органа, што ўшчамляе правы грамадзянаў.**

Сярод падпісантаў скаргі — жыхары Бабруйска (Магілёўская вобласць), Крупак (Мінская вобласць), Мінска і Мінскага раёна, а таксама без вызначанага месца жыхарства.

У скарзе, між іншым, адзначаецца, што 12 лістапада 2014 года 29 грамадзянаў, у тым ліку і заяўнікі скаргі ў суд, накіравалі дзясятую заяву на прыём да кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, але ў чарговы раз атрымалі адпіску. На сваю ж скаргу на гэтыя дзеянні кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, накіраваную кіраўніку дзяржавы, грамадзяне ўвогуле не атрымалі аніякага адказу. Дарэчы, гэта быў саракавы зварот актывістаў грамадзянскай ініцыятывы да прэзідэнта Беларусі за апошнія восем гадоў.

Вось чаму грамадзяне вырашылі звярнуцца ў суд, бо наяўнасць праблемы адпісак — адказаў, якія абыходзяць сутнасць пастаўленых у зваротах пытанняў, — не дазваляе людзям вырашаць іх канкрэтныя справы.

Заяўнікі просяць суд прызнаць неправамернымі дзеянні (бяздзеянне) кіраўніцтва Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якое адмаўляе ім у прыёме і не вырашае праблему адпісак.

Апроч таго, грамадзяне просяць суд абавязаць кіраўніцтва Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у бліжэйшы час прыняць падпісантаў скаргі альбо іх прадстаўнікоў на асабістым прыёме.

# Яшчэ адну актывістку анархісцкага руху асудзілі

**3 лютага прыблізна ў 13.20 была затрымана яшчэ адна актывістка анархісцкага руху. Увечары гэтага ж дня адбыўся і суд у судзе Савецкага раёна г. Мінска па арт. 17.1 «Дробнае хуліганства» і арт. 23.4 «Непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў».**

Судзіў Палулех Кірыл. Таксама былі прадстаўлены сведкі-міліцыянты — Яноўскі М. і Бізюк Р.

Падчас паседжання высветлілася, што да затрыманай супрацоўнікі АМАПу прыйшлі на працу, пасля нядоўгіх перамоваў было здзейснена затрыманне. Сваёй віны на судзе яна не прызнала, распавяла, што намагалася высветліць прычыны і падставы затрымання, але іх ёй так і не агучылі. Са словаў затрыманай, супрацоўнікі паказвалі пасведчанні, але такім чынам, што немагчыма было даведацца іх імёны і прозвішчы, а таксама яны казалі, што ў іх ёсць «загад зверху» пра затрыманне, і больш яны нічога не ведаюць.

У сваіх паказаннях сведкі-міліцыянты блыталіся, не маглі нават успомніць вуліцу, праходзячы па якой яны нібыта раптам пачулі шум і нецэнзурную лаянку ў доме з зачыненымі дзвярыма і вокнамі, не памяталі, хто пісаў рапарты — яны самі ці іншыя асобы з іх словаў. Дапытаныя па чарзе, супрацоўнікі АМАП далі супярэчлівыя паказанні, на што была звернута ўвага суду. Акрамя таго, былі парушэнні і ў афармленні матэрыялаў справы, пра што неадназова было сказана падчас працэсу. Гэтак, не было подпісу затрыманай пад пратаколам аб адміністрацыйным правапарушэнні, не была выдадзена копія такога пратаколу, увогуле не быў складзены пратакол аб адміністрацыйным затрыманні.

На судзе таксама выступілі і два сведкі з боку абароны. Яны паказалі, што абвінавачаная нецэнзурнай лаянкай не лаялася, рукамі не размахвала, не крычала, за вопратку супрацоўнікаў не хапала, супраціву пры затрыманні не аказвала, сама прайшла і села ў службовую машыну.

Але суддзя не звярнуў увагу на ўсе супярэчлівасці справы, палічыў паказанні сведкаў з боку абароны недаказанымі, а паказанні супрацоўнікаў АМАПу — поўнымі, абгрунтаванымі і пацверджанымі адпаведнымі рапартамі, і вынес рашэнне аб адміністрацыйным арышце па двух артыкулах у 10 сутак.

**spring96.org**

# Тры дзіцячыя пытанні пра беларускую рэчаіснасць

Сяргей ДУБАВЕЦ

**Часцяком мне прыходзяць у галаву наіўныя пытанні. Гэта калі тыя ўяўленні пра рэчаіснасць, якім мяне вучылі з дзяцінства, перастаюць гэтай самай рэчаіснасці адпавядаць.**

Вось, скажам, жыллёвае будаўніцтва ў Мінску. Такога размаху я не бачыў нідзе ў свеце. Здаецца, усіх, каму не хапала жылля, даўно можна было рассяліць. Прыросту насельніцтва няма з савецкіх часоў, наадварот, жыхароў краіны стала меней за 10 мільёнаў, тым часам горад павялічыўся ў разы і працягвае расці. Можа, гэта прыток з раёнаў у сталіцу? Але, па-першае, умовы жыцця па-за Мінскам цяпер нічым не адрозніваюцца ад сталічных нават у вёсках. Па-другое, і ў раёнах ды абласцях будуюць на злом галавы. Куды, каму? І чаму такога няма, напрыклад, у Вільні ці ў Празе? Новыя дамы зусім не пустуюць, а адразу ж засяляюцца. Можа быць, людзі набываюць кватэры, каб здаваць іх у арэнду? Але хто тады тыя масавыя арандатары, калі насельніцтва ўсё адно не расце. Ужо б і ім свайго жылля хапіла. Так што загадка застаецца.

Пра сярэдні заробак яшчэ больш складана. Калі асноўная маса народу зарабляе не больш за 500 долараў, дык пры сённяшняй дарагоўлі адкуль у людзей грошы на тыя кватэры ці хоць бы на машыны? Тое, што аўтапарк за 20 гадоў вырас у разы, а цяпер яшчэ і капітальна абнавіўся, кожны бачыць няўзброеным вокам. Пры тым, што ўсе кажуць пра тое, што мала грошай, а падаткі, штрафы і выплаты па крэдытах у Беларусі абсалютна драконаўскія. Але ніхто не галадае, усе «ўпакаваныя», што б яны ні казалі. Адкуль у людзей грошы? Загадка.

Трэцяе пытанне тычыцца дзяржавы. Калі наша эканоміка жыве выключна дзякуючы расійскім датацыям, адкуль сродкі на ўтрыманне аграмаднай арміі абсалютна не патрэбных чыноўнікаў? Асабліва гэта тычыцца самай вялікай у свеце міліцыі на душу насельніцтва і незлічоных кантрольных органаў. Што і навошта яны кантралююць? Можа быць, справа не ў датацыях, і ў нас проста выдатная сама эканамічная мадэль?

Магчыма, я адстаў ад жыцця, і рэчаіснасць кіруецца нейкімі іншымі законамі. Але, як той казаў, трэба пытаца, бо ў пытанні, бывае, болей сэнсу, чым ва ўсіх магчымых адказах.

**svaboda.org**

# Аляксандру Францкевічу прысудзілі 25 сутак

**У судзе Савецкага раёна Мінска 3 лютага адбылося разбіральніцтва справы аб адміністрацыйным правапарушэнні ў дачыненні да Аляксандра Францкевіча. Суддзя — Арцём Бяскішскі.**

Затрыманага 2 лютага Францкевіча абвінавацілі ў парушэнні адразу 2 артыкулаў: арт. 17.1 КаАП (дробнае хуліганства) і 23.4 (непадпарадкаванне законным патрабаванням службовай асобы).

З паказанняў Францкевіча стала вядома, што падчас працоўнага дня некалькі чалавек прыйшлі да яго па месцы працы. Дырэктар папрасіў спусціцца яго ўніз, дзе супрацоўнікі ў цывільным ужо чакалі яго. Пасля гэтага яго даставілі ў РУУС Савецкага раёна, дзе былі складзеныя два пратаколы.

У судзе выступілі два сведкі — супрацоўнікі АМАП Сіняк і Палавінкін. Абодва паказалі, што, знаходзячыся па адрасе Незалежнасці, 58, грамадзянін Францкевіч паводзіў сябе падазрона: хадзіў уперад-узад, тузаўся, нерваваўся, чым і прыцягнуў да сябе ўвагу. Абодва сведкі распавялі, што яны нібыта прадставіліся, паказалі пасведчанне, пасля чаго Францкевіч пачаў уцякаць. Калі яго дагналі, яму яшчэ раз паказалі пасведчанне, ён у сваю чаргу пачаў лаяцца грубай нецэнзурнай лаянкай, пагражаць непрыемнасцямі на працы. Пасля гэтага быў папярэджаны аб прымяненні фізічнай сілы, пасаджаны ў службовую машыну і дастаўлены для разбіральніцтва ў РУУС Савецкага раёна. Ноч да суду Аляксандр Францкевіч правёў у ізалятары на Акрэсціна.

**spring96.org**

# Акцыя пратэсту перавозчыкаў не адбылася

Ганна МЫЗЕНКА

***Журналісты і міліцыянты дарма чакалі ля Дома ўрада акцыі пратэсту грузаперавозчыкаў, якія павінны былі сёння патрапіць на прыём да першага віцэ-прэм'ера Васіля Мацюшэўскага. На пазначаны час — 9 гадзінаў раніцы, да Дома ўрада ніхто не з'явіўся.***

На плошчы Незалежнасці сабраліся каля 15 прадстаўнікоў беларускіх СМІ і некалькі дзясяткаў міліцыянтаў у штацкім. Удзельнікаў акцыі яны чакалі прыкладна паўгадзіны. За гэты час ніхто не з'явіўся. Журналісты вырашылі разыходзіцца.

Нагадаем, што пра правядзенне акцыі абвясціў 26 студзеня дырэктар фірмы міжнародных грузаперавозак Сяргей Штода. Гэта было выклікана тым, што беларускія грузаперавозчыкі апынуліся на мяжы знішчэння.

Дырэктары фірмаў міжнародных грузаперавозак «патрапілі» на сур'ёзныя штрафы парадку 50–80 тысяч еўра з-за недасканаласці новай сістэмы платных аўтадарог BelToll. Для многіх з іх гэта азначае банкруцтва, а чыноўнікі разводзяць рукамі і спасылаюцца на чалавечы фактар, з-за якога парушальнікаў першапачаткова не апавясцілі аб тым, што штрафы налічваюцца з велізарнай хуткасцю і практычна штодня. Дырэктары фірмаў прыгразілі выйсці на вуліцы, перакрыць кальцавую і нават спаліць свае фуры ў знак пратэсту.

Улады абяцалі правесці амністыю па штрафах, якія ўтварыліся ў першыя тры месяцы працы сістэмы BelToll з прычыны тэхнічных збояў сістэмы і недастатковага інфармавання перавозчыкаў з нагоды нававядзення. Аднак пасля змены эканамічнай сітуацыі, улады забралі сваё абяцанне назад. Такім чынам, перавозчыкі павінны выплаціць буйныя сумы грошай у якасці штрафаў.

Раніцай 3 лютага Сяргей Штода адправіўся на сустрэчу з першым віцэ-прэм'ерам Васілём Мацюшэўскім. На сустрэчы планавалася абмеркаваць, як выйсці з сітуацыі. Аднак гэтая сустрэча аказалася пасткай — Штоду затрымалі міліцыянты, і ён у той жа дзень быў асуджаны на 15 сутак адміністрацыйнага арышту за тое, што «лаяўся матам».

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Працаваць і працаваць!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Шмат цікавых і ўзнёслых словаў было сказана Аляксандрам Лукашэнкам на прэс-канферэнцыі 29 студзеня. Але, на вялікі жаль, словы разыходзяцца са справамі ў нашым нашым каралеўстве.**



www.lenta.ru

Найперш, пра крызіс, які хвалюе ўсіх. Аляксандр Лукашэнка зноў абвінаваціў у ім аўтамабілістаў. Справа не новая, — яны былі вінаватыя і ў крызісе 2011 года. Тады Лукашэнка наракаў, што «народзец» цягне «аўтахлам» з Еўропы.

Ну што ж, беларусы паслухаліся свайго кіраўніка. Як паведаміў падчас прэс-канферэнцыі старшыня праўлення Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі (БАА) Сяргей Міхневіч, у 2014 годзе ў краіну было ўвезена каля 70 000 аўтамабіляў. Прычым беларусы набылі каля 50 тысяч новых аўто. Варта зазначыць, што крыху больш за палову гэтых новых аўтамабіляў людзі набылі не ў замежжы, а ў нашых айчынных аўтадылераў.

Так што аўтамабілісты, калі і вінаватыя ў крызісе, дык толькі напалову.

Усіх уразіла тое, што наш кіраўнік казаў пра мову. «Гэта прыкмета нацыі. Калі няма ў цябе асаблівасцяў, сваёй, беларускай мовы, то ты не маеш гэтай прыкметы. І ты проста як расійскі чалавек. Ты рускі! А мы ж беларусы! Мы павінны ведаць беларускую мову гэтаксама, як і рускую. Гэта будзе найвялікшае дасягненне беларуса. У мяне ёсць малы, і я хачу, каб ён ведаў беларускую мову, як рускую», — сказаў ён.

Жаданне гэтае, канешне, можна толькі ўхваліць. Але цікава, як Мікалай будзе вучыцца беларускай мове? Як паведаміла 3 лютага на прэс-канферэнцыі, прысвечанай правядзенню XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выставы-кірмашу міністр інфармацыі Лілія Ананіч, у Беларусі 9 з 10 кніг выдаюцца на рускай мове. «Гэтыя лічбы адлюстроўваюць рэальны моўны стан кнігавыдання ў краіне», — лічыць яна.

Такім чынам, калі Мікалай захоча вывучаць беларускую мову, ён у крамах проста не знойдзе беларускамоўных кніг. Прыйдзецца яму звяртацца да экстрэмісцкага «Логвінава», і як мага хутчэй, бо і гэтая крама можа знікнуць. З-за прэтэнзіяў той самай Ліліі Ананіч Ігар Логвінаў павінен сплаціць бюджэту ледзьве не мільярд рублёў, што ставіць яго на мяжу банкрутства.

Лукашэнка адназначна заявіў і што сацыяльна-эканамічная і палітычная мадэль у краіне змяняцца не будзе. Маўляў, мы самі з вусамі. А ці сапраўды самі?

Напрыклад, аўтар польскага эканамічнага цуду, прафесар Лешак Бальцаровіч лічыць інакш. Па ягоным меркаванні, беларуская эканоміка трымаецца на плаву толькі дзякуючы расійскім уліванням у наш сацыяльны вырай. «Беларусь пачала добра. Потым абралі Лукашэнку, а ён — «вялікі» эканаміст — сказаў: «Хопіць, больш выбараў не будзе, будзем эканоміць на палітычных выдатках». І так да гэтага часу. Можна пачуць, што Беларусь — гэта вырай, але тыя, хто так кажа, не памятаюць пра мільярды долараў, якія ўлівала Расія. Калі б іх не было, узо даўно здарылася б катастрофа», — сказаў Бальцаровіч падчас лекцыі ў Кіеве.

Лукашэнка як вялікае дасягненне адзначыў, што ў межах нашай «сацыяльнай эканомікі» магчыма ручное кіраванне цэнамі. Вось узялі мы іх — і замарозілі. Але пяць бізнес-саюзаў на тыдні накіравалі ў Міністэрства эканомікі чарговы стогн з гэтай нагоды.

«Аналіз сітуацыі паказвае, што штучнае стрымліванне цэн на ўнутраным рынку ўжо прывяло да значнага перакосу цэн на многія прадукты харчавання, у прыватнасці ў Расіі яны значна даражэйшыя. Як вынік, у краіне імклівa скарачаецца рынак традыцыйных для беларусаў прадуктаў харчавання. Напрыклад, ужо адчуваецца востры недахоп у гандлі капусты белакачаннай, іншай гародніны і фруктаў беларускай вытворчасці. Аптымальным для нашай краіны з'яўляецца падтрыманне цэн на спажывецкім рынку прыкладна на ўзроўні РФ або нязначна ніжэй», — адзначаюць прадстаўнікі бізнесу.

Па-другое, пры стрымліванні цэн на імпартныя тавары расце спажывецкі попыт на іх, айчынныя вытворцы пазбаўляюцца магчымасці актывізаваць імпартазамяшчэнне, расце адмоўнае сальда знешняга гандлю.

Як паказваюць апытанні, значная колькасць імпарцёраў зараз прыняла рашэнне прыпыніць сваю дзейнасць, што ўжо ў найбліжэйшыя тыдні можа прывесці да абвастрэння сітуацыі як на спажывецкім рынку, так і ў сферы вытворчасці. «Да асабліва негатыўных наступстваў прывядзе спыненне паставак медыкаментаў», — мяркуюць падпісанты звароту.

Па-трэцяе, аналіз дзейнасці вытворчых прадпрыемстваў паказвае, што гранічна дапушчальны планавы ўзровень рэнтабельнасці ў 3%, усталяваны на тавары айчыннай вытворчасці, яўна недастатковы для забеспячэння бясстратнай працы прадпрыемстваў. «Заведама стратная дзейнасць большай часткі суб'ектаў гаспадарання здольная прывесці да лавінападобнага росту неплацяжоў і, як вынік, да фінансавага крызісу ў краіне; да зніжэння заработнай платы супрацоўнікаў, якія працуюць як у вытворчасці, так і ў сферы паслуг; да скарачэння асартыменту тавараў на паліцах, з'яўлення дэфіцыту, з'яўлення неабходнасці набываць тавары ў прадстаўнікоў ценавога сектара эканомікі, неабходнасці выезду за мяжу па пакупкі», — адзначаецца ў лісце.

Неабходнасць захавання нашай сацыяльнай мадэлі Лукашэнка тлумачыў тым, што інакш да нас прыедуць баевікі і зробяць тут Майдан. Ну, дык ужо і да беларускага Майдану недалёка. Напрыклад, у Гродна міліцыя ледзь-ледзь разняла прадпрымальнікаў з падаткавікамі, якія прыйшлі на рынак з пазапланавай праверкай. Больш за 300 прадпрымальнікаў хіба што не затапталі падаткавікоў.

А дырэктары фірмаў па міжнародных перавозках так і не дачакаліся абяцанай амністыі і патрапілі на штрафы ў 50–80 тысяч еўра з-за недасканаласці сістэмы платных аўтадарог BelToll. Для многіх з іх гэта азначае банкрутства, а чыноўнікі разводзяць рукамі. Дырэктары фірмаў прыгразілі выйсці на вуліцы, перакрыць кальцавую і нават спаліць свае фуры ў знак пратэсту.

Так што, калі Лукашэнка не адмовіцца ад сваіх словаў, у Мінску ля Дома ўрада хутка можам адчуць і пах паленай гумы — як на Майдане.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Сяргей Скрабец

**Паплечнік Мікалая Статкевіча з аргкамітэта па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) абвясціў тое, пра што саромелася казаць уся апазіцыя, — пра магчымы байкот прэзідэнцкіх выбараў.**



Скрабец адзначыў, што завяршаюцца перамовы аб сумесным стварэнні ініцыятыўнай групы па вылучэнні Мікалая Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты Беларусі з грамадзянскай кампаніяй «Гавары праўду!», аргкамітэтамі па стварэнні партый «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», «Партыя свабоды і прагрэсу», рухам «Разам», «Маладым фронтам» і некаторымі іншымі арганізацыямі. Стварэннем ініцыятыўнай групы Статкевіча займаецца і Аб'яднаная грамадзянская партыя. Засталося толькі падпісаць пагадненне, праект якога збольшага гатовы.

«Першае — ствараем ініцыятыўную групу па вылучэнні Статкевіча. Другое — збор подпісаў ідзе пад лозунгам: «Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, патрабуем вызвалення палітычных зняволеных Статкевіча, Аліневіча, Дзядка, Васьковіча, Пракапенка, Рубцова і далучаемся да ініцыятыўнай групы па вылучэнні Мікалая Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь». Трэцяе — стварэнне ініцыятыўнай групы суправаджаецца шырокай грамадскай кампаніяй «Свабоду Статкевічу і ўсім палітвязням». І самы галоўны, як мне здаецца, пункт: у выпадку адмовы ў рэгістрацыі Статкевіча — аб'яўляем байкот выбараў», — паведаміў Скрабец.

Аднак байкот выбараў можа быць абвешчаны і раней — калі ўлады не зарэгіструюць саму ініцыятыўную групу па вылучэнні Статкевіча.



### Аляксандр Глеб

**Беларускі 33-гадовы паўабаронца падпісаў кантракт з турэцкім клубам «Генчлербірлігі».**

Варта адзначыць, што Глеб пакінуў «Кан'яспор», за які выступаў са студзеня 2014 года, літаральна ў дзень падпісання новага кантракту. Кантракт, які дзейнічаў да канца чэрвеня гэтага года, быў скасаваны «па ўзаемнай згодзе».

«Генчлербірлігі» і «Кан'яспор» з'яўляюцца суседзямі па турнірнай табліцы. Пасля 18 тураў новы клуб Глеба займае 10-е месца з 22 баламі, стары — 11-е месца з 20 баламі. У топ-дывізіёне турэцкага чэмпіянату 18 каманд.



### Пётр Міклашэвіч

**На думку старшыні Канстытуцыйнага суда Беларусі, стан канстытуцыйнай законнасці ў Беларусі — лепш не бывае.**

Прынамсі, гэта вынікае з тэксту паслання «Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 2014 годзе», які сваёй пастановай зацвердзіла падначаленае Міклашэвічу ведамства.

Гэты шматстаронкавы дакумент можна не чытаць, паколькі ніхто і так не сумняваецца, што нікому не дазволена парушаць Канстытуцыю краіны, ну хіба што крышачку. «Праверaныя Канстытуцыйным судом у 2014 годзе ў парадку папярэдняга кантролю 55 законаў, прынятых (парламентам)... у цэлым прызнаны адпаведнымі Канстытуцыі», — гаворыцца ў заключнай частцы паслання.

Папраўкі ў пенсійнае заканадаўства, перавод усяго інтэрнэту ў статус СМІ, магчымасць блакіроўкі інтэрнэт-сайтаў па надуманых прычынах і блакіроўка, якая ўжо адбылася нават да пачатку дзеяння новага закону аб СМІ, забарона на забастоўкі на гарадскім электрычным транспарце і метрапалітэне, абмежаванне права ўласнасці дзеля барацьбы з фінансаваннем тэрарызму, дэкрэт кіраўніка дзяржавы пра павелічэнне адказнасці кіраўнікоў, які насамрэч даў магчымасць рэпрэсаваць працоўных, — гэта толькі выбраныя прыклады заканатворчай дзейнасці нашых кіроўных органаў у 2014-м годзе. І ўсё гэта, па меркаванні Канстытуцыйнага суда, прынята і зроблена ў межах «узмацнення абароны правоў і свабод чалавека ў Беларусі».

а | Азбука паліталогіі

# Беларускія Гімалаі



Сяргей НІКАЛЮК

**Айчынная сацыяльна-эканамічная мадэль не мае патрэбы ў карэкціроўцы. Лічыцца, калі што і мяняць, дык сусветную эканоміку, якая не хоча нас падтрымліваць.**

Пачну з любімага прыкладу, запазычанага з кнігі маёй маладосці «Фізікі жартуюць»: фізік просіць матэматыка разлічыць устойлівасць стала з чатырма ножкамі. Практычна імгненна матэматык праводзіць вылічэнні для крайніх умоваў, г. зн. для стала без ножак і для стала з бясконцай іх колькасцю. Але яму патрэбныя гады для разліку ўстойлівасці стала з чатырма ножкамі.

На месцы матэматыка лёгка ўявіць палітолага або эканаміста. Прадказаць лёс палітычнай сістэмы, заснаванай на 100-працэнтным папулізме, не надта складана. Але ў жыцці такіх сістэм не больш, чым сталоў з бясконцай колькасцю ножак. Звернемся да «беларускай мадэлі». Не выклікае сумнення, што папулізм з'яўляецца адным з яе сістэмаўтваральных элементаў. Але гэта ацэначнае меркаванне. У «лічбу» яго не перавядзеш. Тым не менш палітолагам грэх скардзіцца на лёс. Магчымасць назіраць наступствы папулізму, у максімальнай ступені набліжанага да 100-працэнтнага, ім дала Балівар'янская Рэспубліка Венесуэла.

## Чэргі пад дуламі аўтаматаў

*«Венесуэла не только реально, но и потенциально супербогатая страна»,* — тут і далей цытаты з інтэрв'ю адзінага палітыка (АП) тэлеканалу «Венесалана дэ Тэлевісьён». У яе багацця дзве крыніцы. Па-першае, нафта, па запасах якой Венесуэла з'яўляецца сусветным лідарам. Па-другое, яе сучасную дзяржаўнасць сфармаваў Уга Чавес — «вялікі чалавек», пазбаўлены недахопаў. *«Он велик тем, что показал, как минимум всему американскому народу, который живет на двух континентах, что возможно и жить, и думать, и говорить по-другому. Нормально жить, красиво, искренне и честно. И эта политика непобедима. Потому что она справедлива».*

Прыгледзімся ж да багучых выніках непераможнай палітыкі, заснаванай на справядлівасці.

Афіцыйны (справядлівы) курс нацыянальнай валюты — 6 балівараў за долар. Рынкавы курс — каля 190. А яшчэ год таму адзін «зялёны» можна было набыць за 60 балівараў!

Да чаго такая дынаміка здольная прывесці на практыцы, беларусам нескладана здагадацца. Прамысловасць пазбаўляецца магчымасці закупляць камплектуючыя і спыняецца. У параўнанні з 2007 годам вытворчасць аўтамабіляў скарацілася ў 10 разоў. Сельская гаспадарка застаецца без угнаенняў і насення. Вытворчасць мяса зніжаецца ў два разы, малака — на 70%.

Крамы амаль увесь час стаяць зачыненымі — ім няма чаго прадаваць. У выніку жорстка ўнармаванае практычна ўсё: ад малака да туалетнай паперы. Нацыянальная гвардыя падтрымлівае парадак у чэргах. Тым, хто атаварыўся, ставяць нязмыўную пазнаку на руцэ.

Прыклады можна працягваць, але я абмяжуюся цытатай, запазычанай у публіцыста Максіма Самарукава: «Пасля таго, як нафта ўпала ніжэй за $ 50, у Венесуэле пачаўся імклівы распад усіх звыклых інстытутаў цывілізацыі. Якую галіну чалавечага жыцця ні вазьмі, усюды робіцца абышто. Перасталі функцыянаваць самыя простыя структуры, якімі чалавецтва навучылася карыстацца яшчэ ў дэспатыях Старажытнага Усходу, — а ў сённяшняй Венесуэле яны не працуюць. Людзі не могуць здабыць самыя звычайныя харчовыя прадукты. Ні за якія грошы не могуць набыць».

## Ахвяра самагіпнозу

Справядлівасць здольная здзяйсняць цуды, калі яе энергію накіраваць на фарміраванне абменнага курсу нацыянальнай валюты і цэнаўтварэнне. «Вялікі чалавек» Уга Чавес памёр у сакавіку 2013 года, але сцяг барацьбы за справядлівасць, які выпаў з яго рук, падхапіў верны паплечнік Нікалас Мадура.

Аднак і пасля сваёй смерці камандантэ Чавес працягвае актыўна ўплываць на палітычны курс краіны, перыядычна з'яўляючыся пераемніку ў вобразе маленькай птушачкі. Я не выключаю, што менавіта птушка нашчабятала афіцыйную прычыну найцяжэйшага эканамічнага крызісу ў Балівар'янскай Рэспубліцы: ва ўсім вінаватыя ЗША і мясцовая «пятая калона».

Але перамесцімся з экзатычнай Венесуэлы да родных хат, і дапаможа нам у гэтым чарговая цытата АП: *«Мы с Чавесом — люди одной идеологии. <…>. Мы, наверное, с Чавесом и являемся братьями, потому что мы открыты. Мы честны перед своим народом, перед другими народами и государствами. И мы полны решимости проводить именно такую политику. И для реализации победы этой политики надо только одно — время».*

Спадзяюся, два дзесяцігоддзі — тэрмін цалкам дастатковы для дасягнення перамогі. Прыгледзімся ж да яе пладоў праз агульныя з Венесуэлай ідэалагічныя акуляры. Яе асноўная характарыстыка ва ўменні *«длительное время выходить из этого кризиса».* Прычыны крызісу выключна знешнія: *«Они порождены не нами».*

Гэта не мы гадамі двухзначнымі тэмпамі павялічвалі заработную плату ў эканоміцы. Сваім розумам мы б да такога не дадумаліся. Без падстутнага Захаду тут не абышлося. Думаю, чытачы НЧ памятаюць, якім чынам гэтая знешняя правакацыя адгукнулася ў 2011 годзе.

29 студзеня на прэс-канферэнцыі для беларускіх і замежных СМІ АП у чарговы раз прыгадаў, як *«мы приехали на «Горизонт», и там рыдали женщины, просили — деточка, дай нам 30 долларов зарплаты».*

Такія прыклады АП прыводзіць для доказу правільнасці курсу, абранага, паводле яго ўласнага прызнання, *«на ощупь».* Аднак у 1990-х гадах прычына крызісу была прынцыпова іншай. Савецкая цэнтралізаваная эканоміка распалася, а новая з элементамі рынку яшчэ толькі пачынала фармавацца.

Сёння ж мы маем крызіс мадэлі, *«которая была и существует у нас».* Усвядоміць, што яна вычарпала свой унутраны рэсурс і больш не здольная адказваць на сучасныя выклікі, яе галоўнаму архітэктару, мяркуючы па ўсім, не дадзена.

Як тут ні прыгадаць класіка цывілізацыйнага аналізу Арнольда Тойнбі: «Звычайна адна і тая ж меншасць або індывід не ў стане даць творчыя адказы на два ці больш паслядоўных выклікі». Прычына — траплянне лідара пад гіпноз, якім ён паўплываў на сваіх паслядоўнікаў. Пастаянныя вяртанні АП да гісторыі з жанчынамі, што галасілі на «Гарызонце», — прыклад такога ўзроўню.

## Самая вялікая памылка

Цікавую інфармацыю прачытаў на днях на адным з аналітычных сайтаў. Яна мяне зацікавіла як чалавека, які займаўся ў маладосці спартовым турызмам на прафесійным узроўні.

Група даследчыкаў з ЗША і Францыі высветліла, што альпіністы з краін, у культуры якіх прысутнічае выразная іерархія, часцей дасягаюць вяршынь у Гімалаях, але таксама і часцей гінуць. Першы факт можна растлумачыць больш эфектыўнай каардынацыяй унутры групы, члены якой добра выконваюць указанні лідара. Другі факт тлумачыцца тым, што ў многіх выпадках члены каманды з нізкім статусам не могуць выказаць свой пункт гледжання, таму памылка кіраўніка аказваецца фатальнай.

Не даводзіцца сумнявацца ў тым, што тыповы прадстаўнік беларускага большасці «іерархічны ў сваім разуменні рэальнасці» (Леў Гудкоў, сацыёлаг). Таму гісторыя сучаснай беларускай дзяржаўнасці — гэта ў першую чаргу гісторыя будаўніцтва і функцыянавання жорсткай іерархічнай структуры (уладнай «вертыкалі»).

Як і ў выпадку з альпіністамі, ва ўмовах постперабудовачнага хаосу іерархічны прынцып каардынацыі даказаў сваю эфектыўнасць. Мабілізацыйная эканоміка — яго стыхія. Але забяспечваць устойлівае развіццё ў сучасным (постіндустрыяльным) свеце іерархіі не пад сілу. Яны начыста прайграюць гарызантальным структурам.

Звернемся да артыкула эканаміста Мікалая Кашчэева «Самая вялікая памылка — думаць, што свет не мяняецца», апублікаванага ў газеце «Ведамасці»: «Неразуменне таго, што вертыкальны свет сыходзіць назаўжды, нягледзячы ні на якія крызісы і лакальныя адкаты, нягледзячы ні на якія цяжкасці і часовыя паразы — яго проста зносіць плынню часу, як старажытныя царствы, феадалізм, імперыі, — гэта для многіх драма, калі не трагедыя».

Гэту драму на асабістым узроўні і на ўзроўні беларускага грамадства мы сёння і назіраем. Агульны негатыўны эфект істотна ўзмацняецца за кошт няздольнасці членаў каманды з нізкім статусам выказаць свой пункт гледжання. У Гімалаях гэта павышае верагоднасць гібелі ўдзельнікаў узыходжання. Што тычыцца гісторыі, то ў грамадствах, якія не маюць механізмаў абмежавання ўлады, запускаюцца працэсы самаразбурэння.

## Яшчэ год-паўтара такой дынамікі…

Дваццаць гадоў таму жанчыны на «Гарызонце» марылі пра заробак у 30 долараў. Пра які заробак у доларавым эквіваленце яны марацьсёння — я не ведаю. Але звернемся да афіцыйнай статыстыкі. Вытворчасць тэлевізараў за 2014 скарацілася на 62,4% (за 2013-ы — на 58,8%)! Усяго за мінулы год было выраблена 93,3 тысячы тэлевізараў, г. зн. менш за 8 тысяч за месяц. І гэта на двух заводах! Акрамя мінскага «Гарызонта» ёсць яшчэ віцебскі «Віцязь».

Але не думайце, што такая сумная вытворчая статыстыка звязана з нізкім унутраным попытам на тэлевізары. У 2014 беларусы купілі 412,3 тысячы апаратаў у рознічным гандлі. Гэта на 12,5% больш, чым у 2013 годзе, колькі пры гэтым было завезена з блізкага замежжа — статыстыка замоўчвае. Але толькі 12,1% ад розніцы аказалася прадукцыяй айчыннай вытворчасці. Яшчэ год-паўтара такой дынамікі — і на «Гарызонце» не будзе каму плакаць.

Айчынныя тэлевізары, безумоўна, знаходзяцца на чале спісу тавараў, вытворчасць якіх можа не перажыць 2015 год. Але канкурэнцыя ў намінацыі «Бывай, айчынны спажывец» сёння высокая як ніколі. Вытворчасць пральных машын за год скарацілася на 53,2%, кар'ерных самазвалаў — на 41,9%, грузавых аўтамабіляў — на 31,4% (з выробленых 8 тысяч штук 1,9 тысячы не знайшлі свайго спажыўца).

Ёсць такое паняцце ў паліталогіі — «мерытакратыя» (літар. «улада годных») — прынцып кіравання, згодна з якім кіруючыя пасады павінны займаць найбольш здольныя людзі, незалежна ад іх сацыяльнага паходжання і фінансавага дастатку.

Рэалізацыя гэтага прынцыпу ў Беларусі на сённяшні дзень не ўяўляецца магчымай, бо на шляху здольных людзей ва ўладу стаяць «сумленныя выбары». А ў тым, што і бліжэйшыя выбары будуць сумленнымі — сумнявацца не даводзіцца. З чым я жанчын на «Гарызонце» і віншую.



# Застой нам толькі сніцца

Тацяна ЛІСІЧЭНКА

**На прэс-канферэнцыі Аляксандр Лукашэнка, настальгаваў па часах Брэжнеўскага застою. Маўляў, нічога кепскага ў гэтым не было — наадварот, людзі мелі стабільнасць, атрымлівалі заробак, што яшчэ трэба...**



### «Застой» ці крызіс?

Брэжнеўскі застой добра адчуваецца толькі недзе наверсе. У нізах яго няма нават ва ўспамінах. Толькі ў мінулым годзе, напрыклад, кошты на ўтрыманне дзяцей у дзіцячым садку выраслі ўдвая. Нават харчаванне дзіцяці ў садку зараз бацькі аплачваюць напоўніцу. Ці магчыма такое было ў «застоі», і ці «сацыяльная» такая мадэль?

Медыцына ў нас толькі ўмоўна бясплатная. Да таго ж, розныя ўрадаўцы штораз вяртаюцца да ідэі браць грошы за наведванне паліклінікі. Тарыфы на паслугі ЖГК за год выраслі на траціну (па дадзеных Белстата, на 33,7%). Грамадскі транспарт — на 50 працэнтаў.

Па дадзеных Беластата, сярод паслугаў насельніцтву больш за ўсё падаражэлі бані і саўны — аж на 77,7%. Ці магчыма такое было ў тыя застойныя часы, калі была знятая дагэтуль найпапулярнейшая «Іронія лёсу, альбо З лёгкай парай»?

Калі б Брэжнеў даведаўся, што гэтую сітуацыю нехта называе «Брэжнеўскім застоем», ён бы ў труне перавярнуўся.

Адзінае, што аб'ядноўвае сённяшнюю сітуацыю з застоем, — гэта прынцыпы кіравання эканомікай. Зараз яна працуе «ў ручным рэжыме». Пра гэта казаў і сам Лукашэнка, распавядаючы пра «замарожванне цэнаў». Нягледзячы на тое, што, па словах кіраўніка краіны «курс рубля адпусцілі ў свабоднае плаванне», Нацбанк жорстка трымае гэтае «плаванне». Інакш як патлумачыць тое, што курс долара падае ў той час, калі попыт на валюту перавышае прапанову?

Міністэрства гандлю ледзьве не паляванне вяло на тых прадпрымальнікаў і крамы, якія не выконвалі палажэнне аб «замарожванні коштаў» альбо парушалі «асартыментны спіс», аддаючы перавагу імпартнай прадукцыі. Крамы-парушальніцы зачынялі, а да прадпрымальнікаў ужо ставіліся як у брэжнеўскія часы да фарцоўшчыкаў.

**Альбо мы застаемся намінальна незалежнымі ў той час, як усё багацце пяройдзе да рознага кшталту алігархаў. Альбо мы ўвогуле страчваем незалежнасць, таму што першы вораг краіны — слабая эканоміка**

Такая мадэль кіравання эканомікай прывяла да таго ж, да чаго прывяло і брэжнеўскае кіраванне. Лукашэнка вымушаны быў прызнацца, што ў пэўнай ступені ў краіне ўзнікае дэфіцыт, найперш тых тавараў, якія немагчыма замяніць беларускімі.

Між тым, «бананы і іншая зараза» — гэта, як кажуць, першы званочак. Дэфіцыт СССР пачынаўся з увайшоўшага ў анекдоты знікнення туалетнай паперы.

За пяць гадоў (з 2009-га) мы маем чатыры дэвальвацыі (дзве з іх у 2011-м). Як вынік, абяцаны сярэдні заробак 500 долараў у эквіваленце штораз абрынаецца. Відавочна, што эканоміка такі заробак не трывае. Кошты ж спрабавалі ўтаймаваць не адзін раз, але гэта немагчыма зрабіць у эканоміцы, якая арыентаваная на знешні свет як у імпарце, так і ў экспарце. Варта зазначыць, што пры кожным замарожванні коштаў цэны ўзрастаюць.

Насамрэч, сітуацыя ў нас не застойная, а больш падобная на набліжэнне крызісу канца 1980-х гадоў перад распадам СССР.

### Выйсце з крызісу

Выйсце з гэтага крызісу ўсім вядомае: пераарыентацыя вытворчасці (памятаеце Гарбачоўскую канверсію ВПК?), дыверсіфікацыя рынкаў (так, зноў шлях на Захад), новыя тэхналогіі і разняволенне прыватнай ініцыятывы. То бок, рынкавыя рэформы. Інакш мы атрымаем «ліхія 90-я», чаго так палохаецца Аляксандр Рыгоравіч.

А чаму не? Таму, патлумачыў Лукашэнка. «Здзівіць я магу любой мадэллю, але ці гатовыя вы пераварыць гэтую мадэль? (...) Калі я вам прапаную самую эфектыўную амерыканскую мадэль, заўтра вуліцы будуць запоўненыя баевікамі, рознымі членамі пятай калоны. З усіх бакоў да нас паедуць, будуць нас вучыць, будуць нам ладзіць майданы», — адзначыў Лукашэнка.

То бок, Аляксандр Рыгоравіч палохаецца, што ў выніку пераўтварэнняў ён страціць уладу. І менавіта гэтым абумоўленае ягонае нежаданне эканамічнай трансфармацыі дзяржавы. Але менавіта адсутнасць гэтай трансфармацыі можа прывесці да таго самага Майдану ў выглядзе тысячаў рабочых перад Домам урада.

«Свет імкліва мяняецца», — зазначыў Аляксандр Лукашэнка, але, як заўсёды, гэта быў пасыл вонкавы, а не ўнутраны. Трэба было б зазірнуць у сябе і нарэшце ўсвядоміць, што застой быў амаль паўстагоддзя таму. Зараз сапраўды іншы свет, іншае грамадства. У Беларусі няма тых рэсурсаў СССР, каб гэты застой падтрымліваць і выпешчваць. І альбо мы проста зараз змяняемся разам з сусветам, альбо...

Ёсць шмат варыянтаў. І ўсе яны горшыя. Альбо мы застаемся краінай «трэцяга свету» ў цэнтры Еўропы, разам з дэградацыяй усёй прамысловасці. Альбо мы застаемся намінальна незалежнымі ў той час, як усё багацце, у тым ліку ў выглядзе прадпрыемстваў, назапашанае ў савецкі час, пяройдзе да рознага кшталту алігархаў. Альбо мы ўвогуле страчваем незалежнасць, таму што першы вораг краіны — слабая эканоміка. Пра гэта Аляксандр Рыгоравіч шмат казаў яшчэ год таму, напачатку расійска-ўкраінскага канфлікту, але зараз ён пра гэта забыўся.

І, варта зазначыць, што чым раней мы скончым захапляцца застоем, тым лепш. Аляксандр Лукашэнка казаў, што шокавай тэрапіі ў Беларусі не будзе. Але пасля распаду СССР ягоных грамадзянаў напаткаў менавіта шок. Так што, насамрэч, альтэрнатываў змене эканамічнага курсу папросту няма.

# Коштавая свістапляска

Генадзь КЕСНЕР

**Апошнімі днямі народ заўважыў, што цэннікі ў крамах мяняюцца не ў лепшы бок. Яшчэ, падазраю, давядзецца схамянуцца, калі ў паштовых скрынях з'явяцца першыя сёлетнія жыроўкі.**

Пасля Новага года не толькі журналісты, але і шараговыя грамадзяне заўважылі дэфіцыт памідораў, якія яшчэ перад святамі ды і пасля іх, хоць і не доўга, каштавалі адносна дэмакратычна. Імпартныя таматы можна было прыдбаць нават па 20 тысяч айчынных рублёў, у той час як тутэйшыя, ждановіцкія, сягалі ў кошце да 40 тысяч. Але на пэўны перыяд зніклі і тыя, і іншыя. Як адрэагавала ўлада ў асобе намесніка міністра гандлю Ірыны Наркевіч? «Не знайшлі памідораў, купіце агурок», — параіла высокая чыноўніца журналістам.

«Гут», — можна было б сказаць гэтай далёка не самай беднай асобе ў нашай сацыяльна арыентаванай дзяржаве. Але возьмем тыя ж агуркі беларускай вытворчасці: яны каштавалі на момант выказвання ў сярэднім 55 тысяч за кіло, у той час як імпартныя — 30 тысяч. Пасля 3 лютага кошты ўраўняліся. Але не ў меншы бок. Тое ж тычыцца і памідораў. Цяпер там, дзе гэтыя плады з'явіліся ў продажы (не паўсюль, у сэнсе, з'явіліся), то ўжо за кіло давядзецца выкласці ад 44 500 да 55 200 рублёў. Пры такіх жа коштах на агуркі. Дзякуй за параду, спадарыня намміністарка! Выбару не засталося.



Далей. Першая асоба дзяржавы прызналася, што не ўжывае бананы ды іншую «гадасць», маўляў, абыдземся. Гандляры быццам бы чакалі такога прызнання Рыгоравіча. Кошты на гэты, дарэчы, вельмі карысны прадукт, асабліва для сардэчнікаў, адразу ўзляцелі амаль у два разы. Яшчэ некалькі тыдняў і нават дзён таму, калі пашчасціць, кіло бананаў можна было набыць за 12–14 тысяч, а зараз жа — па 18–25 тысяч. А то і болей. Ды і цытрусавыя, якія самы галоўны аскет краіны таксама азначыў як «гадасць», скокнулі з 13–18 тысяч да 28–35 тысяч за кіло. Калі галоўнай асобе не падабаецца нейкі прадукт, значыць, ён, той прадукт, мусіць не падабацца ўсяму дзевяцімільённаму «калгасу». Таму і кошты можна адпускаць.

Трэба звярнуць увагу, што эканамічныя ўлады заяўлялі, што рост коштаў дапушчальны толькі на імпарт з краінаў, якія не ўваходзяць у Еўразійскі эканамічны саюз (ЕАЭС), які пачаў дзейнічаць ад 1 студзеня бягучага года. А вось на прадукцыю, выробленую ў ЕАЭС, кошты мусяць застацца ранейшымі.

Ну-ну. Назіранне аўтара гэтых радкоў. Аўторак, 3 лютага. Невялікая крамка «крокавай даступнасці» ў цэнтры сталіцы. Пачатак другой паловы дня. Прадавачка наманікюранымі пазногцямі пачынае здзіраць коштавыя налепкі (дарэчы, многія крамы нават у Мінску дагэтуль не абсталяваныя сэнсарным счытваннем коштаў, зафіксаваных на штрых-кодах!) з пластыкавых пляшак «Лідскага квасу». Яшчэ хвіліну таму 0,75 літра (гэтага карыснага, паводле медыкаў, напою) каштавала 7950 рублёў, а тутака перад вачыма разгубленых спажыўцоў — ужо 9100. І гэта тычыцца не толькі квасу.

Дык што гэта значыць? Гэта ж нават не новая партыя тавару, што магло б нейкім чынам патлумачыць павышэнне кошту. Чаму новыя цэны лепяцца на стары тавар айчыннай вытворчасці? А сасіскі ды вараныя каўбасы па 70–80 тысяч? А сала на рынку па 130–150 тысяч (белае), а вэнджанае амаль па 250–280 тысяч за кіло?

А яшчэ цікавыя кошты на нашу прадукцыю лёгкай прамысловасці. Мужчынская кашуля айчыннай вытворчасці больш-менш прыстойнай якасці каштуе ад 400 да 700 тысяч рублёў. Хаця нават у Германіі аналагічны тавар еўрапейскага пашыву можна прыдбаць за 9–14 еўра (160–230 тысяч).

Што ж, час зацягваць паясы, як той казаў. Вось і ўся сацыяльная мадэль, мяняць якую правадыр, па ягоных словах, не збіраецца ні ў якім разе.

TV

## 13 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія).
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «А шчасце дзесьці побач».
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты 5. Закл. серыя.
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы - 3».
**17.25** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**17.55** Нашы.
**18.10** Тэлефільм цыклу «Вялікі рэпартаж».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Дэтэктыўная меладрама «Выходжу цябе шукаць» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Крымінальная меладрама «Падсадны» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**23.55** Дзень спорту.
**00.10** Камедыйны серыял «Сваты 5». Закл. серыя.

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.05** «Вучыцца жыць».
**14.35** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Пяць вечароў». Мастацкі фільм.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Тры акорды».
**23.05** Вячэрні Мінск.
**00.05** «Вячэрні Ургант».
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Вакол свету за 80 дзён».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**15.35** «Ежа багоў».
**16.50** «Вовачка». Тэлесерыял.
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Паміж анёлам і нячысцікам».
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Тэрыторыя памылак».
**00.25** «Вялікая гульня». Покер.
**01.10** «Насланне». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар» (Расія).
**10.10** Капейка ў капейку.
**10.45** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне» (ЗША).
**00.40** «Сустрэча з...».
**13.15** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**14.20** Камедыйны серыял «Фізрук» (Расія).
**15.15** Вось дык так!
**15.50** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**16.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Супермікс. Прамая трансляцыя.
**18.25** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**19.00** Кіпень.
**19.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Змяшаная эстафета. Прамая трансляцыя.
**21.00** КЕНО.
**21.15** Тэлебарометр.
**21.20** Хачу ў тэлевізар!
**21.55** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Містычнае рэаліці-шоў (Расія).
**23.00** Рэпарцёр.
**23.50** Прыгодніцкі фільм «Хуткі і мёртвы» (ЗША - Японія).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** Дабрaранак.
**07.50** Хачу ўсё ведаць! Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 8-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**08.55** Сірано дэ Бержарак. Музычная меладрама (СССР, 1989 г.).
**10.15** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**10.45** Кафедра. Псіхалагічная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1982 г.).
**13.00** Сіла веры.
**13.25** Аўтограф. Ансамбль сучаснага танца «Гарэзлівыягенькі» Мінскага Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў.
**13.55** Мультфільмы.
**14.35** Размаўляем па-беларуску.
**14.40** Паэт і майстар. Натхненне ў скульптуры. Гісторыя стварэнння першага манументальнага помніка А.С.Пушкіну ў Санкт-Пецярбурзе.
**15.05** Гваздзік. Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**15.40** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 8-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**16.30** Дыя@блог. «Пра вечнае».
**16.55** Зорнае спатканне. Юбілейны канцэрт заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Рыгора Сарокі.
**18.30** Старажытнае паданне. Калі сонца было богам. Гістарычная драма. 1-я - 3-я серыі (Польшча, 2003 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** Чачара. Ваенная драма (Італія, Францыя, 1960 г.).
**22.40** Камертон. Протаіерэй, кампазітар Андрэй Бандарэнка.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.15** PRO спорт. Навіны.
**07.15** Авертайм.
**07.45** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Адвольная праграма. Пары.
**10.35** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Кліпэрз».
**00.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Эстафета. Жанчыны.
**13.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Антхольц. Эстафета. Мужчыны.
**15.30** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Паказальныя выступленні.
**17.35** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**18.05** Фактар сілы.
**18.35** Піт-стоп.
**19.05** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Кліпэрз».
**20.55** Біятлон. Этап Кубка Свету. Супермікс.
**22.30** Біятлон. Этап Кубка Свету. Змяшаная эстафета.
**00.00** Еўрапейскі покерны тур.
**00.55** PRO спорт. Навіны.
**04.05** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Кліпэрз». Прамая трансляцыя.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Два на два (тэледыскусія): Марат Гаравы і Вацлаў Арэшка.
**07.55** Студыя «Белсат».
**10.15** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**11.10** «Дысідэнт з КДБ», дак. фільм, 2010 г., Францыя–Канада–Швейцарыя.
**12.05** 54 % (публіцыстычная праграма).
**12.25** Студыя «Белсат».
**12.55** Два на два (тэледыскусія): Марат Гаравы і Вацлаў Арэшка.
**13.25** Студыя «Белсат».
**15.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**16.10** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**16.35** «Дысідэнт з КДБ», дак. фільм, 2010 г., Францыя–Канада–Швейцарыя.
**17.30** «Еўрапейскі баль», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**18.05** 54 % (публіцыстычная праграма).
**18.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**18.40** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**18.45** Студыя «Белсат»: Каментар эксперта.
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Рэвалюцыя 1905–1907 гг. і Беларусь.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.25** «У пошуках царскіх скарбаў», дак. фільм, 2013 г., Германія–Францыя.
**23.20** «Дом», серыял.
**01.00** Студыя «Белсат».

## 14 ЛЮТАГА, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.45** Існасць.
**07.10** Рамантычная камедыя «Нявеста майго сябра» (Расія-Украіна).
**09.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.50** Кулінарная дыпламатыя.
**10.25** Серыял «Каханне ў вялікім горадзе - 3».
**11.25** «Пра ежу!». Кулінарны майстар-клас.
**12.00** Навіны.
**12.10** Гісторыі рамонту.
**12.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**13.30** БеларусьLIFE.
**14.00** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** «Трыумф. Героям спорту 2014». Дзённік.
**15.50** Прэм'ера на канале! Меладрама «Нечаканая радасць» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**19.15** «Я магу!». Народнае шоу. Паўфінал.
**21.00** Панарама.
**21.40** «Я магу!». Народнае шоу. Паўфінал.
**22.00** Меладрама «Пернікі з бульбы» (Расія).
**00.00** Серыял «Каханне ў вялікім горадзе - 3».
**00.55** Дзень спорту.
**01.05** Крымінальная меладрама «Эгаіст» (Расія).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.25** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** «Бацькоў у школу!».
**13.45** «Дача». Мастацкі фільм.
**15.15** Насмяшы коміка.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Ералаш».
**16.45** «100 мільёнаў».
**18.15** «Я спяваю!».
**20.30** Нашы навіны.
**20.55** Навіны спорту.
**21.05** «КВЗ. Старт сезона».
**23.30** «Легенды Life». «Сакрэт».
**00.05** «Аднакласнікі». Мастацкі фільм.

### СТВ

**05.50** «Паміж анёлам і нячысцікам».
**07.40** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**08.30** «Прыгоды дылетанта».
**09.00** «Разумней не прыдумаеш».
**10.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**10.40** «Дарагая перадача».
**11.00** «Мінск і мінчане».
**11.30** «Закаханы па ўласным жаданні». Мастацкі фільм.
**13.10** «Коко Шанэль». Мастацкі фільм.
**13.50** «Нам і не снілася».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**18.15** «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.10** «Рамэа і Джульета».
**22.15** «Зорны рынг».
**23.25** «Закаханы па ўласным жаданні». Мастацкі фільм.
**00.50** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.05** Мастацкі фільм «Агонь, вада і... медныя трубы» (СССР).
**08.25** Толькі для дарослых.
**08.45** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар. Легенда пра Аангу» (ЗША).
**09.40** Беларуская кухня.
**10.15** Тэлебарометр.
**10.20** Анімацыйны фільм «Ледніковы перыяд - 4. Кантынентальны дрэйф» (ЗША).
**11.55** Капейка ў капейку.
**12.30** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Містычнае рэаліці-шоў (Расія).
**13.40** Вось дык так!
**14.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**15.55** Comedy Woman. Гумарыстычная шоу-праграма (Расія).
**16.50** Ікра.
**17.25** Біятлон. Этап Кубка свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**19.15** Ваша лато.
**19.40** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.55** «Разбуральнікі міфаў». Пазнавальна-забаўляльная праграма (ЗША).
**21.00** Спортлато 6 з 49.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.30** Камедыйны трылер «Кабельшчык» (ЗША).
**23.15** Камедыйны баявік «Нацыянальная бяспека» (ЗША).
**00.50** «Сустрэча з...».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Скарлет». Меладрама. 1-я і 2-я серыі (Францыя, ЗША, Італія, Германія, 1994 г.).
**08.00** Старажытнае паданне. Калі сонца было богам. Гістарычная драма. 1-я - 3-я серыі (Польшча, 2003 г.).
**10.15** Камертон. Протаіерэй, кампазітар Андрэй Бандарэнка.
**10.40** Маладая гвардыя. Гераічная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1948 г.).
**10.55** Подых струн. Музычная праграма. Госці - Яўгеній і Любоў Галат.
**11.35** Наперад у мінулае.
**12.00** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.55** Рэчавы доказ. Палаш Ізмайлава. Дакументальны фільм.
**13.20** Рэчавы доказ. Сучаснік самой гісторыі. Дакументальны фільм.
**13.25** Размаўляем па-беларуску. Тэлевіктарына.
**13.45** Уяўны Парыж. Французскія мастакі - выхадцы з Беларусі.
**13.55** Шасцёра вандроўнікаў на свеце. Фільм-казка (ГДР, 1972 г.).
**14.25** Свет прыроды. Маленькі зімовы сюжэт.
**14.40** Трактарысты. Меладрама (СССР, 1939 г.).
**15.00** Шчасце берагчы. Андрэй Макаёнак.
**15.30** Цуды прыроды. Чэхія. Куба. Фіджы.
**16.00** Людвіг ван Бетховен. «Сімфонія № 9».
**16.00** Навукаманія. Сталявыя клеткі.
**16.25** Зімовыя мроі. Канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча. Рамансы, шэдэўры сусветнай вакальнай класікі ў выкананні Аксаны Волкавай, Уладзіміра Пятрова, Ігара Задарожнага. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор - народны артыст Беларусі Міхаіл Казінец.
**17.15** Гутаперчавы хлопчык. Драма (СССР, 1957 г.).
**17.25** Дыя@блог P.S..
**17.50** Скарлет. Меладрама. 1-я і 2-я серыі (Францыя, ЗША, Італія, Германія, 1994 г.).
**18.25** Размаўляем па-беларуску.
**18.35** «Культпрасвет».
**19.05** Чачара. Ваенная драма (Італія, Францыя, 1960 г.).
**20.45** Калыханка.
**20.45** Калыханка.
**21.05** Сабор Парыжскай Богамацеры. Драма (Францыя, Італія, 1956 г.).
**21.10** Мелодыі стагоддзя. У выкананні Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь прагучаць творы М. Леграна, Э. Марыконэ, групы «Бітлз». Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор - Віктар Бабарыкін, пан-флейта - народны артыст Малдовы Канстанцін Масковіч.
**22.10** Культпрасвет.
**22.45** Дзівакі. Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага.
**23.00** Уяўны Парыж. Французскія мастакі - выхадцы з Беларусі.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**05.35** Баскетбол. НБА. «Атланта» - «Голден Стэйт».
**07.45** PRO спорт. Навіны.
**08.15** Біятлон. Этап Кубка Свету. Супермікс.
**09.50** Баскетбол. НБА. «Атланта» - «Голден Стэйт».
**11.35** Біятлон. Этап Кубка Свету. Змяшаная эстафета.
**13.10** Чэмпіянат свету па кікбоксінгу.
**15.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Тотэнхэм» - «Арсенал». Прамая трансляцыя.
**17.30** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Югра» (Ханты-Мансійск). Прамая трансляцыя.
**19.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**20.55** Гандбол. SEHA-ліга. Прамая трансляцыя.
**22.35** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. ВЭФ - «Цмокі-Мінск».
**00.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Эвертан» - «Ліверпуль».
**02.05** Еўрапейскі покерны тур.
**02.55** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні: Рэвалюцыя 1905-1907 гг. і Беларусь.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** ПраСвет.
**10.55** «Вынаходлівы Дабрамір», мультсерыял.
**11.05** «Аблавушак», мультсерыял.
**11.20** «Экспедыцыя прафесара Губкі», мультсерыял.
**11.40** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**12.35** «Дом», серыял.
**14.15** Гісторыя пад знакам Пагоні: Рэвалюцыя 1905-1907 гг. і Беларусь.
**14.25** Канцэрт «АВ-ВА-аркестру».
**15.20** «Еўрапейскі баль», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**15.55** «Тэра постсаветыка. Байкал», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**16.20** «У пошуках царскіх скарбаў», дак. фільм, 2013 г., Германія–Францыя.
**17.15** Рэпартэр.
**17.40** «Беларусы ў Польшчы».
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.20** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**20.05** Мова нанова: «Мастацтва».
**20.25** «Каханне па-беларуску», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**21.00** Студыя «Белсат».
**21.10** «Людскія справы».
**21.40** «Эвэрэст», маст. фільм, 2008 г.: ч. 2.
**23.10** Відзьмо-невідзьмо.
**23.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**00.09** Студыя «Белсат».
**00.20** ПраСвет.

TV

## 15 ЛЮТАГА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 Беларусь

**07.10** Меладрама «Пернікі з бульбы» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**10.20** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе - 3» (Расія). Заключная серыя.
**11.20** «Пра ежу!». Кулінарны майстар-клас.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**14.45** Нашы.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.15** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.50** Давярай і правярай.
**17.20** Меладрама «Раман у лістах» (Расія).
**19.10** Крымінальная меладрама «Эгаіст» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Рамантычная камедыя «Нявеста майго сябра» (Расія-Украіна).
**00.15** Камедыйны серыял «Каханне ў вялікім горадзе - 3» (Расія). Заключная серыя.

### АНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** АНТ прадстаўляе: Шоу-гульня «ТБ-такsі».
**12.10** «Брэйн-рынг».
**13.15** «Залаты грамафон».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Першая сусветная».
**17.10** «Рыхт-у-рыхт!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Подых планеты».
**21.40** «Танцуй!».
**23.40** Срэбны мядзведзь-2012.
**01.30** «Ціхі дом».

### СТВ

**06.25** «Студэнты 2». Серыял.
**08.00** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.20** «Рамэа і Джульета».
**10.20** Чысты праца.
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «Зайчык». Мастацкі фільм.
**13.15** «Дарагая перадача».
**13.40** «Добры дзень, доктар».
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** «Кухар для прэзідэнта».
**22.30** «Пякельная кухня - 2».
**23.50** «Коко Шанэль». Мастацкі фільм.

### 2 Беларусь

**07.00** Камедыйны баявік «Нацыянальная бяспека» (ЗША).
**08.25** Вышэй за дах.
**09.00** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар. Легенда пра Аангу» (ЗША).
**10.15** Fitnews. Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.50** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**11.30** Тэлебарометр.
**11.35** Анімацыйны фільм «Сезон палявання» (ЗША).
**13.05** Камедыйны трылер «Кабельшчык» (ЗША).
**14.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**15.50** Я хачу гэта ўбачыць.
**16.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Гонка пераследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.50** «Comedy Баттл. Без межаў». Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.30** Камедыйны баявік «Апошні кінагерой» (ЗША).
**23.45** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**00.30** «Разбуральнікі міфаў». Пазнавальна-забаўляльная праграма (ЗША).

### 3 Беларусь

**08.00, 13.30, 18.45** «Размовы пра духоўнае».
**08.10** «Скарлет». Меладрама. 3-я і 4-я серыі (Францыя, ЗША, Італія, Германія , 1994 г.).
**11.00** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Мацвей Мантвалінскі.
**11.40** «Наперад у мінулае».
**12.05** «Разважаем па-беларуску».
**18.05** «Разважаем па-беларуску».
**12.10** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**13.05** «Рэчавы доказ». Мы былі. Дакументальны фільм пра жыццё Якава Вілімавіча Бруса, нашчадка шатландскіх каралёў.
**13.40** «Калі змоўкла сегідылля». Дакументальны фільм пра народную артыстку БССР і СССР Ларысу Пампееўну Александроўскую.
**14.35** «Зорку за сцінгер». Дакументальны фільм.
**15.20** «Дзэрцір». Драма (Балгарыя, Малдова, 1997 г.).
**16.30** «Зусім прапалы». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1973 г.).
**18.10** «Культпрасвет».
**22.10** «Культпрасвет».
**18.55** «Дама з камеліямі». Драма (Іспанія, Францыя, Італія 1962 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** У.Ткачэнка. «Сімфонія «Бітлз». Выконвае Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.
**22.40** А.Валодзін. «Пяць вечароў». Спектакль.

### 5 Беларусь

**05.15** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. ВЭФ - «Цмокі-Мінск».
**06.50** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**08.20** Гандбол. SEHA-ліга.
**09.55** Біятлон. Этап Кубка Свету. Спрынт. Жанчыны.
**11.30** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Югра» (Ханты-Мансійск).
**13.25** Біятлон. Этап Кубка Свету. Спрынт. Мужчыны.
**14.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Бэрнлі» - «Вэст Бромвіч». Прамая трансляцыя.
**16.55** Хакей. МХЛ. «Дынама-Шыннік» - «Рускія Віцязі». Прамая трансляцыя.
**19.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вэст Хэм» - «Манчэстар Юнайтэд». Прамая трансляцыя.
**21.10** Біятлон. Этап Кубка Свету. Гонка пераследу. Жанчыны.
**22.10** Біятлон. Этап Кубка Свету. Гонка пераследу. Мужчыны.
**23.05** Фактар сілы.
**23.35** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Лэйкерз». Прамая трансляцыя.
**01.45** PRO спорт. Навіны.
**03.05** Баскетбол. НБА. «Нью-Арлеан» - «Чыкага». Прамая трансляцыя.

### БЕЛСАТ TV

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** «Вынаходлівы Дабрамір», мультсерыял.
**07.20** «Аблавушак», мультсерыял.
**07.35** «Экспедыцыя прафесара Губкі», мультсерыял.
**07.55** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.05** «Лёсавырашальная сустрэча», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**09.20** Беларусы ў Польшчы.
**09.40** Два на два (тэледыскусія): Марат Гаравы і Вацлаў Арэшка.
**10.15** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Марцін Пачобут-Адляніцкі.
**10.50** «Аблавушак», мультсерыял.
**11.10** «Экспедыцыя прафесара Губкі», мультсерыял.
**11.20** «Тры шалёныя нулі», серыял.
**11.50** Мова нанова: «Мастацтва».
**12.05** 54 % (публіцыстычная праграма).
**12.30** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**13.20** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча: 4 серыя.
**14.10** «Музычныя партызаны», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**15.05** «Каханне па-беларуску», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**15.40** «Эвэрэст», маст. фільм, 2008 г., Канада: ч. 2.
**17.10** «Ранча», серыял.
**17.55** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**18.30** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**20.00** Эксперт.
**20.25** «Венецыянскі сіндром», дак. фільм, 2012 г., Італія–Германія–Аўстрыя.
**21.20** Кінаклуб: «Гісторыя з каралямі».
**21.35** «Гісторыя з каралямі», маст. фільм, 2011 г., ЗША.
**23.35** «У пошуках царскіх скарбаў», дак. фільм, 2013 г., Германія–Францыя.
**00.29** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход. по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Кассир Всего ______

# Чорная сотня — 2

**У Расіі на дзяржаўным узроўні вырашылі стварыць радыкальны рух «Антымайдан». Пра прыроду новага палітычнага суб'екта і яго перспектывы журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з маскоўскім калегам Дзмітрыем Любліным.**




**У ліберальным асяроддзі нават з'явілася інтэрнэт-петыцыя на адрас ААН, падпісанты якой просяць прызнаць «Антымайдан» «тэрарыстычнай арганізацыяй». Аднак «Антымайдан» уключае таксама абойму салідных палітыкаў, якія сімвалічна звязаны з уладай**

***— З чаго пачалася гісторыя расійскага «Антымайдана»?***

— Яшчэ год таму на хвалі канфрантацыі ва Украіне ў сеціве пачалі стыхійна ўзнікаць нейкі сацыяльныя групы і сайты пад такой назвай. Некаторыя з іх дастаткова папулярныя, аднак іх дзейнасць не выходзіць за віртуальныя межы. Упершыню ў рэальнасць расійскі «Антымайдан» выйшаў 11 студзеня, калі на Манежнай плошчы прадстаўнікі ліберальнай апазіцыі пратэставалі супраць асуджэння Навальнага. «Антымайданаўцы» намагаліся перакрычаць іх лозунгі, аднак у бойку асабліва не лезлі. Журналісты хутка вылічылі, што касцяк «Антымайдана» складаў актыў працпуцінскага моладзевага руху «Нашы». Адразу пачалі казаць, што дзяржава збіраецца стварыць новы палітычны праект, выкарыстаўшы папулярны сярод часткі насельніцтва брэнд — «Антымайдан». Гэтыя чуткі пацвердзіліся, калі 15 студзеня была афіцыйна абвешчаная ініцыятыўная група руху. Яе ўзначаліў сенатар Дзмітрый Саблін, якога ведаюць як вельмі лаяльнага да Пуціна палітыка. Асоба Сабліна цудоўна ілюструе нутро новай ініцыятывы.

***— Калі паглядзець на інтэрнэт-старонкі праектаў, якія называюць сябе «Антымайдан», то можна адзначыць, што яны сімпатызуюць розным прадстаўнікам расійскай палітсцэны. Некаторыя сайты рэгулярна тыражуюць матэрыялы руху «Суть времени» Кургіняна, другія займаюцца піярам панславістаў, трэція робяць рэкламу камуністам. Відавочна, што рух «Антымайдан» ідэйна не маналітны. Ці ў такім выпадку падпарадкуецца ён Сабліну?***

— Наўрад ці. На шэрагу «антымайданаўскіх» сайтаў ужо з'явілася крытыка праекта Сабліна. Пішуць, што Пуцін, падтрымаўшы Сабліна, ідзе шляхам Януковіча. Апошні таксама меў свой «Антымайдан», які ствараўся штучна, пад дзяржаўным дахам, на грошы алігархаў. Янукович не зразумеў, што галоўны Майдан адбыўся ўнутры эліты, вакол прэзідэнта, дзе розныя фракцыі капітулявалі перад апазіцыяй. Менавіта супраць эліты, па словах крытыкаў Сабліна, павінен дзейнічаць расійскі Майдан. Сачыць, каб пуцінскія алігархі не здрадзілі пуцінскім ідэям «рускага свету», не арганізавалі палацавы пераварот. Прыкладна такая логіка сяброў «Антымайданаў», якія не жадаюць уваходзіць у праект Сабліна.

***— Нават павярхоўнага погляду на кантэнт «антымайданаўскіх» СМІ дастаткова, каб зразумець, што 90 працэнтаў размешчанай на іх інфармацыі тычыцца ўкраінскіх падзей. Можа, расійскі «Антымайдан» — гэта проста бурбалка, каб зарабіць грошы?***

— Я згодны, што за ўчынкамі шматлікіх людзей з кіраўніцтва «Антымайдана» стаіць банальны разлік — набіць кішэні, згуляўшы на аранжавых фобіях Крамля. Аднак, з іншага боку, нягледзячы на адсутнасць моцнага антыпуцінскага руху, у грамадскай свядомасці расіянаў апошнім часам прапісалася выразная эсхаталагічная ўстаноўка — хутка ўсё гэта (пад словам «гэта» маецца на ўвазе таксама рэжым Пуціна) павінна нейкім чынам скончыцца. Безумоўна, галоўнай дэтэрмінантай для такіх настрояў ёсць эканамічная рэцэсія і сумныя біржавыя індыкатары. Таму на самай справе прыкметы нейкіх глабальных пераменаў адчуваюцца. І не толькі «страшылкі» прайдзісветаў прымушаюць Крэмль генерываваць арганізацыі накшталт «Антымайдана».

***— Адна з задэклараваных мэтаў стваральнікаў «Антымайдана» — зрабіць рух міжнародным. Аднак у Беларусі і ў Казахстане мясцовая ўлада вельмі баіцца любой дзейнасці 5-й калоны Крамля, падазраючы, што гэта пралог з'яўлення «зялёных чалавечкаў».***

— Саблин — гэта цалкам падпарадкаваная ўладзе фігура, і рабіць нейкія замежныя філіялы без санкцыі Крамля ён не будзе. Не толькі таму, што Лукашэнка і Назарбаеў у сферы барацьбы з майданамі самі могуць даць Сабліну фору. Будучы ізаляваный на міжнароднай арэне, Масква наўрад ці захоча дражніць Мінск і Алма-Ату, даўшы згоду на такое партбудаўніцтва. Экспансія структур «Антымайдана» магчыма толькі на Данбас, дзе, праўда, такога кшталту арганізацый і так хапае.

***— Хірург (мянушка Аляксандра Залдастанава, лідара байкерскай групоўкі «Начныя ваўкі» і аднаго з аўтараў анансаванага праекту «Антымайдана») кажа, што «прыхільнікі руху будуць змагацца з ідэалагічнымі апанентамі, не звяртаючы ўвагу на тое, будзе ім дазваляць улада гэта рабіць ці не. Ці не значыць гэта, што мы атрымаем у выглядзе «Антымайдана» новых чарнасоценцаў?***

— Хірург і яго атачэнне сапраўды ахвотна перад аўдыторыяй ідэалізуюць крымскі «Антымайдан», які ў лютым-сакавіку мінулага года меў вопыт вулічнай барацьбы з прыхільнікамі новай украінскай улады. Не дзіўна, што шмат хто з лібералаў баіцца расправы з боку актыву «Антымайдана». У ліберальным асяроддзі нават з'явілася інтэрнэт-петыцыя на адрас ААН, падпісанты якой просяць прызнаць «Антымайдан» «тэрарыстычнай арганізацыяй». Аднак «Антымайдан» уключае таксама абойму салідных палітыкаў, якія сімвалічна звязаны з уладай. Пагромы дысідэнтаў могуць скампраметаваць праз іх таксама і Крэмль. Маркую, што трэба дачакацца канкрэтных палітычных мерапрыемстваў, каб зразумець, што за індульгенцыю Пуцін выпісаў Хірургу і яго паплечнікам. Такое мерапрыемства, дарэчы, адбудзецца даволі хутка. Прадстаўнікі «Антымайдана» заявілі пра свой намер прыйсці 1 сакавіка на Антыкрызісны марш «Вясна» ў Маскве, што арганізуе Навальны. Увогуле, яны заявілі, што цяпер будуць наведваць усе публічныя акцыі апазіцыі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Страшылка пра выхад з Еўразійскага саюза і адначасовая спроба заняць грошы на Захадзе, у МВФ — традыцыйны прыклад палітыкі лавіравання Лукашэнкі. І ключавая нагода тут — крызісная сітуацыя ў Расіі. Лукашэнка ўпэўнены, што ў сітуацыі крызісу і ізаляцыі Масква не захоча пазбавіцца свайго саюзніка і дасць больш грошай, чым звычайна. Але расійскія ўлады прывыклі да эскападаў беларускага лідара і на істотныя саступкі, хутчэй за ўсё, не пойдуць. Крэмль разумее, што падлашчванне да Захаду і да Расіі ўмацоўвае ўладу Лукашэнкі, які застаецца, нягледзячы на рэзкія заявы і кіданні то на ўсход, то на захад, вечным партнёрам. Захаду Лукашэнка ў любым выпадку не патрэбны.

**«Газета.ру» (Расія)**

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Беларусі ва Украіне Валянцін Вялічка ў адным з інтэрв'ю адзначыў, што «шэраг беларускіх прадпрыемстваў, якія маюць доўгатэрміновыя кантракты на набыццё ва Украіне матэрыялаў, камплектуючых і іншых тавараў, сёння часткова пераходзяць у разліках на грыўню». Заявы Мінска маюць хутчэй палітычную падаплёку. Лукашэнка ўжо даўно рыхтуе плацдарм для паляпшэння адносін з Еўрасаюзам. Пра гэта сведчыць і зніжэнне працы беларускіх мытнікаў на мяжы з РФ, і пачатак перамоў пра атрыманне бязвізавага рэжыму з краінамі — сябрамі ЕС, і праславутая заява Лукашэнкі пра адмову гандляваць за расійскія рублі. Што да лаяльнасці Беларусі да ўкраінскіх гандлёвых партнёраў, то яна мае цалкам меркантыльную мэту. Пакуль да голасу Парашэнкі прыслухоўваюцца ў Еўропе, Мінск можа пайсці на шматлікія саступкі ў разліку, што ўкраінскі прэзідэнт замовіць за яго слова ў Брусэлі.

**«Деловая столица» (Украіна)**

Лукашэнка абсалютна мае рацыю, кажучы пра тое, што «выразнага механізму ўзаемадзеяння і кантролю ў рамках адзінай мытнай прасторы пакуль у поўным аб'ёме няма». Еўразійская інтэграцыя застаецца досыць сырым праектам, які мае патрэбу ў сур'ёзнай дапрацоўцы. Па ідэі, вядома, гэтую дапрацоўку трэба праводзіць у спакойнай абстаноўцы, праз шматлікія саміты і перамовы. Аднак цяпер, улічваючы ўсё, што адбываецца ва Украіне, і чаканыя праблемы на постсавецкай прасторы (у сувязі з эканамічнымі праблемамі, ростам радыкалізму, праблемамі атрымання пасадаў у некаторых азіяцкіх краінах), усё прыходзіцца рабіць на каленках.

**«Эксперт» (Украіна)**

Далучэнне Крыма і вайна ва Украіне рэзка ўскладнілі адносіны Масквы і Мінска. З аднаго боку, беларусы па-ранейшаму дэманструюць саюзніцкі настрой, з другога — усё больш прыкметна асцерагаюцца за сваю незалежнасць. Цікавей за ўсё, зразумела, ці з'яўляецца заява Шыдлоўскага вынікам ужо дасягнутых неафіцыйных пагадненняў Мінска з Вашынгтонам, ці Аляксандр Лукашэнка пакуль толькі намацвае амерыканскую «глебу». Але ў цэлым і без гэтага зразумела — Мінск умацоўвае свае тылы на Захадзе, баючыся далейшага пагаршэння адносін з Масквой з-за ранней занятай Лукашэнкам прамежкавай пазіцыі і адмовы прызнаць далучэнне Крыма да Расіі.

**«Росбалт» (Расія)**

Асаблівасцю Беларусі з'яўляецца тое, што на працягу апошніх 20 гадоў Лукашэнка штучна трымаў замарожанай савецкую мадэль. Сучасная Беларусь пакуль і па эканамічных, і па культурных асаблівасцях — гэта яшчэ Беларуская ССР. Цяпер жа гэтая мадэль пачынае трашчаць па швах. У Беларусі фактычна пачаліся тыя ж працэсы, што ва Украіне стартавалі 20 гадоў таму. У сілу спецыфікі ў дадзеным выпадку мы не будзем мець такога хуткага развіцця антырускага нацыяналізму. У беларускага народа ўсё ж такі няма відавочных падстаў так ненавідзець Маскву.

**«REGNUM» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Як назваць паліцыю?

Ва Украіне стартавала рэформа МУС. У яе рамках, акрамя іншага, міліцыю чакае і новая назва — Нацыянальная паліцыя. Але не ўсе ў грамадстве згодныя з тым, што гэта найлепшая назва для будучых праваахоўных органаў. Маўляў, азначэнне «нацыянальная паліцыя» можа выклікаць канатацыі з паліцэйскімі фармавання часоў Другой сусветнай вайны. Таму прапануюцца іншыя назвы. Напрыклад, жандармерыя або фармаванні парадку. Уключыліся ў дэбаты і гісторыкі, якія нагадавалі, што існуе ўкраінская традыцыя, як называць ахоўнікаў грамадскага парадку. Так, шэраг гісторыкаў прапануюць перайменаваць МУС Украіны ў Варту. Вартай называўся ўкраінскі паліцэйскі дэпартамент у часы гетмана Скарападскага. Дарэчы, такая практыка — ужываць замест слова «паліцыя» іншыя варыянты, ёсць у некаторых краінах Еўропы. Напрыклад, замест паліцыі ў Грэцыі грамадскі парадак ахоўвае астуномія, у Ісландыі — lögreglan (льёґрэґлан), у Венгрыі — rendőrség (рэндзьёршэґ).

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Каго любяць і каго не любяць брытанцы

Газета «The Telegraph» пазнаёміла чытачоў з вынікамі незвычайнага апытання, якое правяло агенцтва «Chatham House». У брытанцаў высвятлялі, якія нацыі яны любяць і якія не любяць. Як сведчаць лічбы, у топе самых любімых — англамоўныя народы. Гэта жыхары Канады, Злучаных Штатаў і Аўстраліі. Па сутнасці, тут сітуацыя даўно не мяняецца. А вось у рэйтынгу самых несімпатычных нацый за год адбыліся вялікія метамарфозы. На першае месца выйшлі расіяне — следства падзей ва Украіне. Калі ў 2012 годзе да іх асцярожна ставіліся 30 працэнтаў брытанцаў, то сёння — амаль 56. Другое месца атрымала Паўночная Карэя (грамадзян КНДР баяцца 47 працэнтаў). Тое, што трэцяе месца дасталася Ізраілю (35 працэнтаў), напэўна, тлумачыцца апошнім канфліктам у Сектары Газа. Іран, які раней быў на трэцім месцы, спусціўся на чацвёртае (33 працэнты). Далей ідуць Пакістан, Украіна, Нігерыя, Саудаўская Аравія, Турцыя, Аргенціна. Беларусь і беларусы ў спісе самых любімых і нелюбімых брытанцамі нацый не фігуруюць.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. Карымаў у коме?



З лютага сайты, блізкія да ўзбекскай апазіцыі, паведамілі, што 77-гадовы прэзідэнт Узбекістана Іслам Карымаў знаходзіцца ў коме. Паводле іх інфармацыі, самаадчуванне Карымава рэзка пагоршылася 28 студзеня. Кіраўнік дзяржавы страціў прытомнасць за вячэрай. Яму аказалі тэрміновую медыцынскую дапамогу, але прывесці прэзідэнта ў прытомнасць пакуль не ўдалося. Іншыя крыніцы, якія таксама падтрымліваюць апазіцыю, сцвярджаюць, што 29 студзеня Іслама Карымава вывелі са стану комы лекары Рэспубліканскага цэнтра кардыялогіі. Цяжка казаць, наколькі гэтыя паведамленні адпавядаюць рэчаіснасці. Ужо некалькі гадоў узнікаюць чуткі аб дрэнным самаадчуванні Іслама Карымава. Толькі ў 2009 годзе Карымаў, паводле апазіцыі, «упадаў у кому» двойчы, аднак у выніку аказваўся жывым і здаровым. У любым выпадку, з улікам прызначаных на сакавік у краіне прэзідэнцкіх выбараў, такая навіна не надае дзейнаму прэзідэнту прывабнасці як кандыдату.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ЗША. 80 гадоў «Манаполіі»

Аматары настольных гульняў святкуюць 80-ю гадавіну з'яўлення папулярнай сярод розных колаў грамадства «Манаполіі». З гульнёй «Манаполія» свет пазнаёміў амерыканскі інжынер Чарльз Бароў (Charles Barrow), які аказаўся ахвярай эканамічнага краху 1929 года. Ужо ў 1935 годзе (годзе выхаду на рынак гульні) «Манаполія» стала самай папулярнай гульнёй у Злучаных Штатах. З таго часу «Манаполія» заваявала свет. Было прададзена каля 275 мільёнаў камплектаў гульні без уліку шматлікіх варыяцый (у часы перабудовы ў СССР, напрыклад, існаваў варыянт, дзе гулялі «рэкеціры» за тое, каб «крышаваць» розныя рынкавыя суб'екты). Сёння «Манаполія» прадаецца ў 11 краінах. Правілы гульні перакладзены на 43 мовы. Цікава, што ў СССР гульня была забароненая, паколькі прапагандавала дух агрэсіўнага капіталізму. У гадавіну нараджэння «Манаполіі» яе фанаты правялі незвычайны сеанс. Яны сабраліся ў адным з гарадоў Францыі і згулялі ў «Манаполію» на сапраўдныя грошы. Пераможац атрымаў каля 20 тысяч еўра.

**Паводле іспанскай прэсы**



# Тайна смерці Уга

Алег НОВІКАЎ

**Што стаіць за чуткамі пра тое, што Уга Чавес пайшоў з жыцця на два месяцы раней за афіцыйную дату яго смерці?**

5 сакавіка 2013 года ўвесь свет даведаўся пра тое, што венесуэльскі прэзідэнт Уга Чавес памёр. Паводле слоў медыкаў, здароўе правадыра Балівaрыянскай рэвалюцыі падкасіла хвароба на рак. Навіна сапраўды выклікала шок у краіне і садзейнічала фармаванню вакол нябожчыка сапраўднага культу народнага прэзідэнта.

І вось цяпер нечакана высвятляецца, што на самай справе трагедыя, быццам, мела месца раней. Лімсі Салазар (Leamsy Salazar), былы кіраўнік службы бяспекі і персанальны целаахоўнік Уга Чавеса на працягу 6 гадоў, нечакана заявіў, што Чавес памёр на два месяцы раней. Пасля смерці боса Салазар збег у Злучаныя Штаты, дзе і зрабіў сенсацыйную заяву.

Заява раз'юшыла афіцыйны Каракас. Як заявіў сённяшні венесуэльскі гарант Нікалас Мадура, да ўсіх інсінуацый вакол даты смерці Уга «прыклаў руку імперыялізм». Ён таксама эмацыйна паабяцаў, што ўсе здраднікі рэвалюцыі трапяць у пекла.

Такая гнеўная рэакцыя тлумачыцца тым, што яна падрывае легітымнасць балівaрскага рэжыму. Узнікае сумнеў адносна правамоцнасці цэлага пакету законаў, якія Чавес падпісаў напачатку 2013 года. Сярод іх і шэраг дакументаў, паводле якіх пераемнікам Уга Чавеса меў стаць менавіта Нікалас Мадура.

Венесуэльскі афіцыёз сцвярджае, што тэкст заявы Салазара пісалі ў ЦРУ. Пра гэта, быццам, сведчыць тое, што раней ён зліў у іспанскую правую прэсу кампрамат на Дзіясдада Кабельё (Diosdado Cabello), цяперашняга спікера венесуэльскага парламенту. Як сцвярджае Салазар, кіраўнік Нацыянальнай асамблеі Венесуэлы звязаны з трафікам наркотыкаў, за якім стаіць групоўка «Cartel de los Soles». «Cartel de los Soles», як кажа Салазар, — гэта тайная арганізацыя венесуэльскіх жаўнераў і афіцэраў, якія арганізавалі канал кантрабанды какаіну з Калумбіі транзітам праз Венесуэлу ў Злучаныя Штаты. Атрыманыя ад наркотыкаў грошы адмываліся праз венесуэльскую дзяржаўную нафтавую кампанію PDVSA.

Салазар таксама намякнуў, што за карыбскі накірунак перапраўкі наркотыкаў адказвае кубінскі ўрад. Выкрыцці былога целаахоўніка ўжо пракаментавалі супрацоўнікі дэпартаменту ЗША па барацьбе з наркотыкамі. Яго прадстаўнік паведаміў, што словы Салазара могуць адпавядаць рэчаіснасці. Гісторыі пра арганізаваны на дзяржаўным узроўні ў Венесуэле наркатрафік і кубінскі след неаднойчы гучалі з боку венесуэльскай апазіцыі.

Самае інтрыгуючае ў гэтай гісторыі тое, што спроба зліць кампрамат на нашчадкаў Чавеса адбылася на фоне новага вітка эканамічнага крызісу ў краіне. Сітуацыя ў Венесуэле і так была не вельмі квітнеючая, а пасля абвалу коштаў на нафту (Венесуэла — адзін з вядучых імпарцёраў «чорнага золата») перажывае новую фазу дэградацыі.

У студзені Мадура абвясціў, што ворагі рэжыму пачалі супраць народу «харчовую вайну» і загадаў прыняць меры супраць сетак супермаркетаў, якія, па яго словах, прымаюць удзел у той вайне. Пад «харчовай вайной» венесуэльскі лідар разумее нежаданне прадаваць тавары па ўстаноўленых дзяржавай коштах, а таксама спробы прыхаваць тавары да лепшых часоў. Сабатаж камерсантаў, піша афіцыйная прапаганда, вядзе да дэфіцыту прадуктаў, росту коштаў на іх на чорным рынку.

Для таго, каб венесуэльскія бізнесмены не хавалі дэфіцытныя прадукты, на днях былі праведзеныя паказальныя арышты галоўных менеджэраў у офісе фармацэўтычнай кампаніі Farmatodo. Ужо вядома, што ўсе арыштаваныя падчас рэйду будуць абвінавачаныя ў правядзенні той самай «антынароднай харчовай вайны». Пошукамі ворагаў даручана займацца Sebin (Балівaрыянская служба нацыянальных даследаванняў), аналаг дзяржбяспекі. Sebin ужо ўзяў пад казырок: на працягу студзеня праверкі і вобшукі адбыліся ў 60 буйных прадуктовых крамах.

Уся гэта кампанія і так не садзейнічала стабілізацыі, а цяпер яшчэ з'явіліся чуткі наконт смерці Чавеса, якія падрываюць рэпутацыю Мадуры. Некаторыя з сябраў праўладнай Аб'яднанай сацыялістычнай партыі адкрытым тэкстам заявілі, што гэта не выпадкова, і ў бліжэйшыя дні «рэакцыя паспрабуе арганізаваць пераварот у краіне».

Пакуль што «рэакцыя» — венесуэльская апазіцыя — не вельмі ахвотна каментуе сенсацыйныя заявы Лімсі Салазара. У дадатак трэба ўзгадаць, што гэта не першы прыступ істэрыкі ў асяроддзі венесуэльскага ўраду. Не так даўно адзін з прадстаўнікоў адміністрацыі Мадуры заявіў, што венесуэльская апазіцыя набыла 18 вайсковых самалётаў для арганізацыі палітычнага перавароту. Эксперты таксама асцярожна ставяцца да прагнозаў Мадуры і яго атачэння наконт будучага путчу, апраўданнем для якога стане загадка смерці Чавеса. Сітуацыя ў эканоміцы цяжкая, аднак Вашынгтон, які заняты Украінай і Блізкім Усходам, наўрад ці зацікаўлены ў радыкалізацыі палітычнай сітуацыі ў Венесуэле.

У сувязі з гэтым пакуль цалкам не зразумела, што на самай справе падштурхнула Салазара прапанаваць альтэрнатыўную афіцыйнай версію смерці Уга Чавеса. З іншага боку, ёсць усе падставы ўзняць пытанне: ці адпавядае афіцыйная версія праўдзе. Варта ўзгадаць, што ўвосень-зіму 2012-га па дыпламатычных кулуарах, сапраўды, раптам пачалі гуляць чуткі пра тое, што венесуэльскі прэзідэнт, якому дыягназ рак паставілі яшчэ ў 2011 годзе, памёр.

# Як палякі перасталі быць мільянерамі

Алег НОВІКАЎ

**У той час, як у Беларусі ўсё часцей кажуць пра неабходнасць яшчэ адной дэнамінацыі, у Польшчы мінула 20 гадоў, як злоты пазбавілі чатырох нулёў.**



Напярэдадні дэнамінацыі злотага тагачасныя цэннікі ў польскіх крамах і заробкі жыхароў краіны былі вельмі падобныя на цяперашнія беларускія. Так, на пачатку 1995 года сярэдні заробак у Польшчы быў 6,1 мільёна злотых. Бохан хлебу абыходзіўся пакупніку ў 9,8 тысячы злотых, а кілаграм цукру — 14 тысяч. За часопіс у шапіках прасілі 12 тысяч. Пляшка гарэлкі каштавала 71 тысячу злотых. Папулярны польскі аўтамабіль Fiat Uno — 200 мільёнаў.

Як сёння беларускі рубель, польскі злоты тады пераследавала інфляцыя. За 1980–1990 гады польская валюта патаннела на 1395 працэнтаў. Кошты за год у сярэднім раслі на 500 працэнтаў. Дзяржава ў адказ была вымушана ўвесь час выпускаць новыя банкноты з усё большым наміналам. У 1991 годзе была выпушчаная купюра коштам мільён злотых. А ў наступным — ужо ў два мільёны. Зразумела, пра грош на той час даўно забылі. Манеты цалкам зніклі з абароту. Самай маленькай па наміналу купюрай у Польшчы на момант рэформы 1995-га была банкнота ў 50 злотых.

Своеасаблівай маральнай кампенсацыяй для палякаў быў той факт, што ў гісторыі Польшчы былі значна больш кепскія часы. Сталыя людзі ўзгадвалі, як ліхаманіла польскія грошы на пачатку 1920-х. У 1921-м, напрыклад, інфляцыя ў краіне склала 94 працэнты, а за адзін амерыканкі долар давалі 9 мільёнаў марак (так спачатку называлася грашовая адзінка Другой Рэчы Паспалітай).

Зразумела, што з інфляцыяй і мільённымі банкнотамі трэба было нешта рабіць. Яшчэ ў 1990 годзе галоўны банк краіны пачаў распрацоўку плану дэнамінацыі. Аднак рэалізоўваць праграму пачалі толькі пасля таго, як сітуацыя ў эканоміцы трошкі стабілізавалася (у 1994 годзе інфляцыя склала 30 працэнтаў). Такім чынам, у ліпені 1994-га польскі Сейм прыняў гістарычную «Уставу пра грашовую рэформу». Паводле закона, пачынаючы са студзеня наступнага года ў краіне ўводзіліся ў абарачэнне новыя грошы. Старыя банкноты паступова, на працягу двух гадоў, выводзіліся з абарачэння. Новыя банкноты вырашылі замовіць у брытанскіх друкароў, а на саміх банкнотах выявіць польскіх манархаў.

Адначасова было вырашана, што новы злоты будзе роўны дзесяці тысячам старых злотых. Чамусьці прынцып 1:10 000 вельмі не спадабаўся часткі грамадства. Узнік рух за тое, каб прыбраць з купюраў толькі тры нулі. Аматары формулы 1:1000 даводзілі, што гэта зробіць дэнамінацыю больш зразумелай для насельніцтва.

**З моманту апошняй дэнамінацыі (2000 года) беларуская грашовая адзінка стала амаль у 50 разоў (ці амаль на 5000 працэнтаў) таннейшай. І таму мы цяпер зноў з мільёнамі, у адрозненні ад палякаў**

Насельніцтва, сапраўды, будучая дэнамінацыя вельмі непакоіла. Рэформа, як вядома, адбывалася ў часы пераходу ад планавай да рынкавай эканомікі, спадарожнікам якой быў выбух крыміналу і розных форм махлярства. Не дзіўна, што, як толькі быў агучаны праект дэнамінацыі, пенсіянераў ахапіла калектыўная паранойя. Яны баяліся стаць ахвярамі прайдзісветаў, якія могуць падсунуць ім пад выглядам новых злотых фальшывыя грошы. Каб супакоіць старую генерацыю, урад пайшоў на незвычайную меру — усе пенсіі са студзеня 1995-га пачалі выдаваць толькі новымі злотымі.

Увогуле, знаёміць з выявай новых грошай палякаў пачалі ў лістападзе 1994-га. Першым, хто паказаў палякам новыя грошы, была тагачасная кіраўніца польскага Нацбанку Ганна Гранкевіч-Вальц (Hanna Gronkiewicz-Waltz). Дарэчы, пані Гранкевіч-Вальц, якая зараз кіруе варшаўскай мэрыяй, была вядомая як заўзятая каталічка. Таму, напэўна, не выпадкова, што факсіміле яе подпісу на банкнотах датаванае 25 сакавіка 1994 года, днём, калі вернікі адзначалі свята Звеставання Найсвяцейшай Багародзіцы.

Ведамства пані Гранкевіч-Вальц запусціла маштабную акцыю па падрыхтоўцы рэформы. Быў прыдуманы нават слоган акцыі: «Zasłoń palcem zera cztery — zyskasz złoty nowej ery» (пол.: «Прыкрый пальцам чатыры нулі — атрымаеш грошы новай эры»). Да інфармацыйнай акцыі Нацбанку былі падключаныя самыя вядомыя тагачасныя польскія селебрыцi. Так, пра надзейнасць новых банкнотаў палякам распавядалі акцёры, які выконвалі ролі ў суперпапулярным фільме «Ва-Банк». Гэта выклікала шмат іранічных каментатараў, паколькі, як вядома галоўныя героі фільма «Ва-Банк», хай і высакародныя, аднак усё ж злодзеі, якія ўзломваюць сейфы.

Як узгадваюць сведкі рэформы, першым наступствам з'яўлення новай валюты стаў вялізарны попыт на гаманцы. Набываць іх давялося з-за таго, што ў абарот вярнуліся манеты.

Больш за ўсё галаўнога болю дэнамінацыя выклікала ў юрыстаў і бухгалтараў, паколькі ва ўсіх дамовах да студзеня 1995 года кошты былі пазначаныя ў старых злотых. Супрацоўнікам юрыдычных кантор і гандлёвых палат нават прыйшлося працаваць у ноч на Новы год.

У Польшчы, як і ў любой дэмакратычнай краіне, хапала і дасюль хапае крытыкаў рэформы. На польскіх форумах можна наткнуцца на цікавыя разлікі, паводле якіх пакупніцая здольнасць палякаў была да дэнамінацыі вышэйшай. «Да рэформы мог набыць на заробак 1000 баханак хлебу, а зараз толькі 800», — піша нейкі блогер. Аднак, хутчэй, такія разлікі — фрагмент настальгіі па часах маладосці, якая выпадкова выпала на час гіперінфляцыі.

Згадваючы тую рэформу, польскія СМІ пішуць, што наўрад ці гэта апошняя грашовая рэформа на памяці цяперашняй генерацыі палякаў. Хаця курс злотага дастаткова стабільны (з 1995 года яго інфляцыя склала 10 працэнтаў), рана ці позна пераход на еўра непазбежны.

Дарэчы, пра Беларусь. Першая дэнамінацыя ў нашай краіне прайшла амаль як у палякаў — у 1994 годзе, тады ад рубля адкінулі адзін нуль. Яшчэ тры нулі адрэзалі ў студзені 2000 года. За адзін долар тады давалі крыху больш за 350 беларускіх рублёў. Такім чынам, з моманту апошняй дэнамінацыі беларуская грашовая адзінка стала амаль у 50 разоў (ці на 5000 працэнтаў) таннейшай. І мы зноў з мільёнамі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Генадзь Зюганаў



Старшыня Камуністычнай партыі Расійскай Федэрацыі (КПРФ), які даўно карыстаецца сяродрадыкальных камуністаў рэпутацыяй апартуніста і здрадніка, нечакана вярнуў свой аўтарытэт. Дапамаглі яму прыхільнікі Майдана. 26 студзеня ў Страсбургу двое ўкраінскіх нацыяналістаў напалі на Зюганава і яго першага намесніка і нанеслі ім некалькі ўдараў. Інцыдэнт адбыўся перад уваходам у будынак Парламенцкай асамблеі савета Еўропы (ПАСЕ). Адказнасць за атаку на чальцоў расійскай дэлегацыі ў ПАСЕ ўзялі на сябе дэпутаты Вярхоўнай рады Украіны ад «Радыкальнай партыі» Алега Ляшко, якія прыехалі ў Страсбург як прыватныя асобы. Адзін з хуліганаў напісаў на сваёй старонцы ў Facebook: «Перад уваходам у будынак ПАСЕ аблілі рускага камуняку Зюганава крывёй і далі па яго варожай мордзе». Мардабой у Страсбургу быў асуджаны кіраўніцтвам КПРФ, аднак на самай справе прынёс Зюганаву славу галоўнага ворага Майдану. Камуністы, якія знаходзяцца ў апазіцыі да Генадзя Зюганава, вельмі абураныя. На сваіх сайтах яны пішуць, што прыняць Зюганава за камуніста — тое ж самае, што распяць патрыярха Кірыла за веру ў Хрыста.

### Фрэнк Мбаінімарама



Прэм'ер-міністр закінутай у Ціхім акіяне дзяржавы-выспы Фіджы заявіў пра змену дзяржаўнай сімволікі, якая была зацверджана пасля таго, як выспа атрымала ў 1970 годзе незалежнасць. Са сцяга краіны знікне выява «Юніён-Джэка» (брытанскага сцяга), якая змешчана ў левым верхнім кутку палотнішча. Па словах палітыка, брытанскі сцяг, што сімвалізуе каланіяльнае мінулае, будзе заменены на сімвал Ціхага акіяну, які больш рэлевантны да новай сітуацыі. Новы сцяг, як лічаць улады Фіджы, будзе сімвалізаваць тое, што на востраве жыве незалежная нацыя. Змену сцяга плануюць правесці ўжо ў кастрычніку, калі Фіджы адзначыць 45-ю гадавіну незалежнасці. Ініцыятыва фіджыйскага прэм'ера, на думку аналітыкаў, можа паскорыць правядзенне аналагічных геральдычных рэформаў у іншых краінах Ціхага акіяну, якія, як былыя калоніі Вялікабрытаніі, маюць на сваіх сцягах выяву «Юніён-Джэка». Цікава, што нягледзячы на незалежніцкую рыторыку прэм'ер Фіджы не рызыкнуў заклікаць да пазбаўлення англійскай каралевы Элізаветы Другой статусу фармальнага лідара Фіджы. Прэм'ер абмежаваўся толькі тым, што загадаў прыбраць яе партрэт з фіджыйскіх грошай.

### Сара Пэйлін



Культавы лідар кансерватыўнай фракцыі рэспубліканцаў, заснавальнік руху «Tea party», кандыдат на пасаду віцэ-прэзідэнта на выбарах 2008 года дала інтэрв'ю, у якім заявіла, што вельмі цікавіцца перспектывамі ўдзелу ў прэзідэнцкай кампаніі ў наступным годзе. Словы палітыка выклікалі вялікі інтарэс, асабліва з улікам яе аўтарытэту на правым флангу і стану прастрацыі ў шэрагах рэспубліканцаў, якія не маюць вызначанага лідара напярэдадні выбараў. Не так даўно ад балаціроўкі ў прэзідэнты адмовіўся Міт Ромні, шансы якога разглядаліся як дастаткова высокія. Праўда, мала хто верыць, што Сара здольная выставіць сваю кандыдатуру на пасаду амерыканскага гаранта. Хутчэй за ўсё, яна зноў будзе кандыдатам у віцэ-прэзідэнты. Фаварытамі ў рэспубліканскім праймерыз называюць былога губернатара Арканзасу Майка Хакабі, экс-сенатара Рыка Санторума, прадстаўніка дынастыі Бушаў Джэба Буша і іншых. Палітолагі адзначаюць, што апошнім часам Сара шчыльна працавала з палітыкам Джоні Эрнстам, якому дапамагла абрацца ў Сенат.

# Рэйд УПА ў Літву

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Пасля заканчэння вайны на тэрыторыі Беларусі, Украіны і Прыбалтыкі актыўную дзейнасць разгарнулі розныя антысавецкія партызанскія фарміраванні. Ва ўмовах падпольнай барацьбы ўкраінскія паўстанцы шукалі магчымасцяў аб'ядноўваць намаганні з літоўскімі «ляснымі братамі».**



**Васіль Галаса. Гэты чалавек рыхтаваў рэйд у Прыбалтыку**



**Літоўскія лясныя браты**



**Байцы УПА, якія ўдзельнічалі ў рэйдзе ў Літву, 1950 год**

## Пошук хаўруснікаў

У канцы 1940-х — пачатку 1950-х гадоў камандаванне Украінскай паўстанцкай арміі ажыццявіла некалькі рэйдаў на тэрыторыю Чэхаславакіі, Румыніі і Польшчы для перамоваў з мясцовымі антысавецкімі сіламі ў справе барацьбы за незалежнасць краін Усходняй Еўропы. Адзін з кіраўнікоў украінскага паўстанцкага руху Восіп Дзякаў пра гэта пісаў: «Шляхам нашых рэйдаў у суседнія краіны, УПА інфармуе суседзяў пра нашу вызваленчую барацьбу і пра жыццё ў СССР. Таксама рэйды актывізуюць рэвалюцыйныя супрацьбальшавіцкія сілы і ствараюць канкрэтную аснову для супрацоўніцтва народаў у адзіным антыбальшавіцкім фронце».

У перыяд з 1945 па 1947 гады ўкраінцам удалося наладзіць супрацу з польскім падполлем у так званай «Закерзоніі» (тэрыторыі ўкраінска-польскага памежжа, якая пасля Другой сусветнай вайны адышла да Польшчы). Рэйды ў Славакію прыводзілі да актывізацыі там антысавецкіх рухаў, якія ўплывалі на ход выбараў у парламент сацыялістычнай Чэхаславакіі. У 1950 годзе камандаванне УПА вырашыла наладзіць кантакт з прыбалтыйскімі атрадамі.

Адказваў за арганізацыю рэйда ў Літву кіраўнік краёвага провада ў паўночна-ўсходніх тэрыторыях (у тым ліку і ў беларускім Палессі) Васіль Галаса, у якога быў выдатны вопыт правядзення такіх аперацый. У 1945–1946 гадах ён падрыхтаваў некалькі груп, якія паспяхова наведалі Славакію і вярнуліся без страт. А праз год амаль тры сотні паўстанцаў пад яго кіраўніцтвам здзейснілі пераход у Заходнюю Германію.

## Адозвы да братоў

Васіль Галаса разумеў, што шлях украінскіх партызан будзе ісці праз Беларусь, і гэты чыннік варта было ўлічваць. Менавіта таму, акрамя ўлётак для прыбалтаў была зроблена і адозва «Да беларускага народа».

Вось што ўкраінцы пісалі ў адной з адозваў да беларусаў: «Беларуская інтэлігенцыя! Станавіся галоўнай сілай барацьбы свайго шматпакутнага народа. Шмат няволі даведаўся беларускі народ. Вядзі яго ў бой за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. Беларускія сяляне і працоўныя! Расійска-бальшавіцкія імперыялісты зрабілі вас нямымі нявольнікамі на вашай роднай зямлі. Уставайце на барацьбу за сваё нацыянальнае вызваленне: за зямлю, за працу, за Волю вашу і ўсяго беларускага народа». У іншым украінскім звароце да беларусаў, які датаваўся 1950 годам, адзначалася: «Беларусы: сяляне, працоўныя, інтэлігенты. Рускія бальшавікі прыгнятаюць вашу радзіму, рабуюць вашы багацці, арыштоўваюць і знішчаюць беларускіх патрыётаў. У Беларусь прывозяць рускіх чыноўнікаў, якія будуць вас прыгнятаць і русіфікаваць. Рускія бальшавікі загналі сялян у калгаснае ярмо, працоўных прымусілі за мізэрны заробак працаваць на заводах, інтэлігенцыю прымусілі служыць бальшавіцкай Маскве. Падымайцеся ўсе на барацьбу супраць сталінскіх прыгнятацеляў і эксплуататараў!». Акрамя гэтых адозваў і ўлётак украінскія партызаны ўзялі з сабой брашуры: «Ці бальшавікі вядуць да камунізму?», «Хто такія бандэраўцы, і за што яны змагаюцца?» і іншыя.

Таксама ўкраінцы ў падрыхтаваных да рэйду прапагандысцкіх матэрыялах выкарыстоўвалі малюнак Ніла Хасевіча «Воля народам! Воля чалавеку!».

А вось яшчэ тэкст адной з ўлётак (на рускай мове, як у арыгінале): «Свобода народам и человеку! Литовцы, латыши и эстонцы! Пламенно приветствуем вашу героическую борьбу за свое освобождение против русско-большевистских оккупантов! В Украине также ведется упорная освободительная борьба. Укрепляйте связи с украинским освободительным движением! Сплоченным фронтом развернем наступление против общего оккупанта! Да здравствует антибольшевистский блок народов! Откликнитесь таким самым образом на наш зазыв! Украинские повстанцы».

У іншых улётках украінцы заклікалі прыбалтаў дасылаць на Украіну іх падпольную літаратуру, а таксама, каб прадстаўнікі прыбалтыйскіх народаў наладжвалі сувязь са звычайнымі ўкраінцамі. Тычыўся гэты заклік і тых, хто знаходзіўся ў бальшавіцкіх лагерах, турмах, а таксама тых, хто служыў у Савецкай Арміі.

## Дарога заблакавана

У прыбалтыйскі рэйд накіравалі невялікую мабільную групу на чале з кіраўніком провада Камень-Кашырскага раёна пад псеўданімам «Рыбак». За канчатковую падрыхтоўку групы адказваў кіраўнік Ковельскай акругі УПА Васіль Сементух (псеўданім «Яры»). Кожны член групы меў пры сябе асабістую зброю, а таксама заплечнікі з літаратурай і ўлёткамі. Па ўспамінах некаторых удзельнікаў гэтага рэйду, прыйшлося нават адмовіцца ад часткі правіянту, каб узяць больш матэрыялаў.

19 ліпеня 1950 года 12 чалавек накіравалася ў рэйд. Хутка ўкраінцы апынуліся ў Давід-Гарадоцкім раёне Пінскай вобласці БССР. Іх шлях ляжаў да мяжы БССР і ЛітССР, таму ўкраінскія падпольшчыкі спрабавалі не спыняцца ў беларускіх вёсках і рухацца як мага хутчэй. Яны прайшлі праз населеныя пункты Драгічынскага, Белаазёрскага, Ружанскага, Слонімскага і Баранавіцкага раёнаў савецкай Беларусі. Аднак хутка байцы УПА зразумелі, што пра іх рэйд ведае МДБ. Падпольшчыкі некалькі разоў натыкаліся на кардоны з унутраных войскаў і міліцыі. 22 ліпеня камандзір групы вырашыў змяніць напрамак руху.

Але праз некалькі дзён украінцам стала зразумела, што ў Літву яны не праб’юцца. Тады было прынята рашэнне разгарнуць прапагандысцкую дзейнасць у беларускіх вёсках. Вось як у адной са справаздач апісваў тыя падзеі ўкраінскі партызан: «Да нас падыходзіла насельніцтва з усіх канцоў вёскі. Першапачатковая гутарка пачала пераходзіць у мітынг. Гаварылі пра барацьбу на ўкраінскіх землях, пра палітычную платформу УПА і, галоўнае, пра важнасць агульнага фронту паняволеных бальшавікамі народаў. Нас уважліва слухалі каля 200 сялян. Пасля мітынгу пачалася дыскусія, падчас якой беларусы расказвалі нам пра сваё жыццё, пра калгасы, працу за працадні. Расказвалі пра савецкіх стаўленікаў, адзін з якіх паспеў збегчы ад нас. А адна старая бабуля сказала нам: «Хлопцы, ратуйце нас усіх, бо мы прападаем, бейце гэтае паскуддзе». Пасля гэтага раздаем нашу літаратуру і выходзім з сяла. Дзеці праводзілі нас да лесу». У вёсцы Слабада, Петрыкаўскага раёна ўкраінцы арганізавалі сход ля млына. Пры гэтым у сходзе ўдзельнічаў старшыня калгасу. Украінцы, як звычайна, заклікалі да аб’яднання намаганняў у барацьбе з бальшавізмам, расказвалі пра свае планы і праграму дзеяння, а калі прамова скончылася, беларускія сяляне пачалі гучна апладзіраваць гасцям з лесу і крычаць: «Жыве Украіна!».

## Дайшлі да Мінска

Усяго на тэрыторыі Тураўскага і Петрыкаўскага раёнаў Палескай вобласці БССР украінцы наведалі 21 населены пункт. Паводле некаторых дадзеных, паўстанцы УПА паспелі распаўсюдзіць свае ўлёткі і выданні ў Гомелі і нават у Мінску. Калі група вярталася ва Украіну, ля ракі Ясельда яна трапіла ў савецкую засаду, але змагла з боем прарвацца.

1 жніўня 1950 года ўкраінцы перайшлі беларуска-ўкраінскую адміністрацыйную мяжу і накіраваліся на Валынь.

Па меркаванні ўкраінскіх даследчыкаў, у прыбалтыйскія рэйды рыхтавалася некалькі груп байцоў УПА, аднак пасля таго, як першы атрад не змог прабіцца, было прынята рашэнне іншых не пасылаць.

Група Васіля Сементуха, якая ўдзельнічала ў прыбалтыйскім рэйдзе, была знішчана МДБ у жніўні 1954 года ў населеным пункце Буцін, які знаходзіцца на дарозе Ковель — Брэст. Штурмаваў лагер паўстанцаў 11-ты батальён унутраных войскаў МУС УССР. Падчас бою была падпалена хата, у якой абараняліся паўстанцы. Частка падпольшчыкаў паспрабавала вырвацца з будынку, аднак усе былі забыты.

Між тым супрацоўніцтва ўкраінскіх паўстанцаў і літоўскіх лясных братоў усё ж адбылося — падчас Нарыльскага, Варкуцінскага і Кенгірскага паўстанняў. Але гэта ўжо іншая гісторыя.



# Протаігумен, які абараняў беларусаў



Сяргей ЧЫГРЫН

**Уладзімір Пянткевіч, першы протаігумен усходняй місіі і суперыёр законнага дому айцоў-езуітаў у Альбярціне, пахаваны ў Слоніме. Але магіла яго ледзь не згубілася за савецкія бязбожныя часы. Знайсці яе дапамагла некалі былая выхавальніца альбярцінскіх езуітаў спадарыня Браніслава Васіленка-Бараноўская.**



Уладзімір Пянткевіч

Ён быў адным з тых палякаў, якія прызнавалі за беларусамі права на родную мову ў Царкве і ў рэлігійным жыцці. Сам прыкладаў намаганні, каб авалодаць беларускай мовай і абавязаў усіх святароў, якія працавалі ў Альбярціне і ваколіцах, ды ўсіх выхаванцаў Альбярцінскага манаскага дома, вучыць мову народа, сярод якога яны павінны былі працаваць. Ды і з'яўленне беларускамоўнага ўніяцкага часопіса «Да Злучэньня!», які рэдагаваў Антон Неманцэвіч, было зусім не выпадковым.

## З біяграфіі

Уладзімір Пянткевіч нарадзіўся 26 снежня 1865 года ў вёсцы Аджыконь каля горада Кросна (Польшча). Гэта быў найстарэйшы сын Максіміліяна — адміністратара маёнткамі і Ганны (дзявочае прозвішча Крышталовіч). Пянткевічы мелі яшчэ двух сыноў — Аляксандра і Браніслава.

Пасля заканчэння трохкласнай школы ў Кросне, Уладзімір вучыўся ў гімназіі ў г. Ясла (1–2 класы) і г. Жэшаў (3–4 класы). У 1880 годзе ён уступіў у ордэн езуітаў у вёсцы Стара Весь каля горада Бжозаў, дзе прайшоў двухгадовы навіцыят і вывучаў гуманітарныя навукі, а таксама рыторыку, між іншым пад кіраўніцтвам немца Алойза Петэрса. А потым штудзіраваў філасофію ў г. Хыраў і ў Цярнопалі. Са снежня 1888 года да чэрвеня 1890 года вывучаў лацінскую мову ў Хыраве і дапамагаў ксяндзу Мар'яну Мараўскаму рэдагаваць штомесячнік «Усеагульны агляд», а таксама прыватным чынам закончыў першы курс багаслоўя.

У 1891–1894 гадах Уладзімір Пянткевіч працягваў навуку на багаслоўскім факультэце, падчас якой 26 мая 1892 года быў рукапаложаны ў святары. Пэўны час выкладаў багаслоўе ў семінарыі езуітаў у Кракаве, а пасля закончыў курсы езуіцкай духоўнасці (трэцюю прабацыю, а гэта самая высокая ступень езуіцкага пасвячэння) у Цярнопалі.

У 1896–1898 гадах святар быў членам рэдкалегіі штомесячніка «Усеагульны агляд», дзе адказваў за грамадскі аддзел. А друкавацца пачаў з 1890 года, публікаваў у штомесяніку «Усеагульны агляд» артыкулы, справаздачы і рэцэнзіі, а таксама пераклады паэтычнай творчасці Мацея Казіміра Сарбеўскага, знаёміў з ягонай рукапіснай спадчынай і прапаведніцкай дзейнасцю, спрабаваў нават пісаць рэлігійныя песні.

З 1897 года на старонках штомесячніка «Усеагульны агляд» Уладзімір Пянткевіч тлумачыў грамадскія пытанні, выказваўся за наладжванне апекі над дзяўчатамі, якія працуюць або шукаюць працу, над рабочымі і эміграцыяй. З этычнага боку ён абгрунтоўваў дапушчальнасць арганізавання забастовак прафсаюзамі і рабочымі ў абарону ад эксплуатацыі і несправядлівасці (артыкул «Страйк перад этыкай» у месячніку «Усеагульны агляд» за 1898 год і іншыя).

У 1989 годзе святар Пянткевіч вярнуўся на кафедру дагматычнага багаслоўя ў семінарыі ордэна езуітаў у Кракаве. У гэты час ён становіцца суперыёрам дома езуітаў у Львове і прысвячае сябе галоўным чынам прапаведніцтву і арганізаванню саслоўных гавенняў для моладзі, інтэлігенцыі, памешчыкаў і клірыкаў. Ён умеў спалучаць глыбокія багаслоўскія разважанні з прыгожым стылем і багатым красамоўствам.

Пасля зыходу з пасады ў чэрвені 1904 года Уладзімір Пянткевіч выехаў у Рым, дзе ў 1904–1906 гадах працаваў сакратаром нямецкай асістэнцыі езуітаў, да якой тады належала галіцыйская правінцыя. Пасля вяртання на радзіму Пянткевіч быў рэктарам калегіі ў Кракаве, затым дарадчыкам правінцыяла, а пасля намеснікам правінцыяла і правінцыялам галіцыйскіх езуітаў. Ён рэарганізаваў тады езуіцкае школьніцтва ў адпаведнасці з патрабаваннямі, пераняў апякунства над новаадкрытай місіяй польскіх езуітаў у Паўночнай Радэзіі, наглядаў за сацыяльнымі адносінамі і развіццём народных рухаў у Галіцыі.

Пад уплывам Уладзіміра Ледухоўскага, асістэнта пры генерале ордэна, з вялікай упартасцю Уладзімір Пянткевіч падтрымліваў — насуперак агульным меркаванням польскіх езуітаў — ідэю будаўніцтва касцёла Сэрца Езуса ў Кракаве (вул. Каперніка, 26) паводле праекта Францішка Манчынскага. Падчас Першай сусветнай вайны з паловы 1914 года да паловы 1915 года працаваў у душпастырстве на Верхняй Сілезіі і Пазнаншчыне, выступаў з патрыятычнымі прапаведзямі. Потым узначальваў езуітаў у Станіслававе (цяпер гэта горад Івана-Франкоўск) ды кіраваў у якасці намесніка правінцыяла езуіцкімі дамамі на Букавіне і ва ўсходняй частцы Галіцыі, якую занялі расіяне.



Айцы-езуіты ў Альбярціне. Злева другі ў першым шэрагу Уладзімір Пянткевіч, пачатак 1930-х гадоў



Крыж у гонар айцоў-езуітаў у мікрараёне Альбярцін у Слоніме

Пасля вайны вярнуўся ў Кракаў, дзе выступаў з пропаведзямі і супрацоўнічаў з езуіцкім перыядычнымі выданнямі «Усеагульны агляд», «Sodalis Marianus», «Glosy Katolickie». Напрыканцы 1923 года прымаў удзел у кангрэгацыі езуітаў у Рыме, падчас якой па адмысловай ініцыятыве папы Пія XI ва ўлонні ордэна была створана ўсходняя галіна грэка-славянскага абраду (гэтак званая ўсходняя місія) і ў 1924 годзе была адкрыта першая місійная станцыя ў Альбярціне каля Слоніма. Уладзімір Пянткевіч далучыўся да гэтай місіі, а 15 ліпеня 1925 года ён быў прызначаны суперыёрам ды протаігуменам. І на гэтай пасадзе заставаўся да канца жыцця.

## У Альбярціне

Нягледзячы на свае 60 гадоў, Уладзімір Пянткевіч энергічна пачаў вывучаць старажытнацаркоўнаславянскую і беларускую мовы, усходнюю літургію, арганізоўваць місію, прыцягваць да справы добраахвотнікаў розных нацыянальнасцяў: італьянцаў, французаў, венграў, немцаў. У 1926 годзе ён адкрыў уласны навіцыят у Альбярціне. Шляхам выступленняў і публікацый у айчынным і замежным друку знаёміў шырокія слаі грамадства з узнікненнем і развіццём уніяцкай акцыі.

Але далёка не ўсім тады падабалася дзейнасць айцоў-езуітаў у Альбярціне. Трэба адзначыць, што з некаторым недаверам пэўны час глядзелі на дзейнасць езуітаў у Альбярціне і беларускія каталіцкія святары з Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. А вядомы сваім змаганнем супраць усяго беларускага Віленскі архібіскуп Рамуальд Ялюбжыкоўскі выдаў спецыяльны пастырскі ліст. А ў рэлігійным штомесячніку «Jutrzenka Bialostocka» рэдактар ксёндз-канонік Адам Абрамовіч у кастрычніку 1931 года змясціў артыкул пад загалоўкам «З якой мэтай?», у якім крытыкаваў айцоў езуітаў у Альбярціне. Гэты самы артыкул пад змененым загалоўкам «Русіфікацыя Слонімшчыны» 6 кастрычніка 1931 года перадрукавала «Gazeta Warszawska», а таксама віленскае «Slowo», а таксама ягоны правінцыйны варыянт «Kurier Nowogrydzki». 2 снежня 1931 года тая ж «Gazeta Warszawska» апублікавала вялікі артыкул памешчыка з вёскі Бердавічы (цяпер гэта вёска называецца Бярдовічы. — С. Ч.) Слонімскага павета Ул. Есьмана, які называўся «Русіфікацыя польскай Беларусі», дзе большую частку матэрыялу займала абвінавачванне ў русіфікацыі спраў ордэна езуітаў грэчаска-славянскага абраду. Гэты матэрыял перадрукавалі таксама іншыя выданні.

Такія шматлікія атакі на ўсходнюю місію вельмі расхвалявалі Уладзіміра Пянткевіча. Ён рэзка абвяргаў падобныя закіды праціўнікаў. На ўсіх уніяцкіх канферэнцыях у Пінску ён заўсёды выступаў у абарону правоў беларусаў на сваю мову. А ў 1932 годзе ў Кракаве Уладзімір Пянткевіч выдае палемічную брашуру «Праўда аб Альбярціне» — як адказ пану Есьману з Бердавіч і ксяндзу-каноніку Адаму Абрамовічу з Беластока. У сваім выданні аўтар растлумачыў усім мэты місіі ў Альбярціне. У прыватнасці, Уладзімір Пянткевіч пісаў (тэкст даецца ў перакладзе на беларускую мову): «...Слонімшчына і Навагрудчына — гэта не Калуга ці Вязьма, і не разумець, што ўніяцкая акцыя на крэсах Польшчы — галоўным і першачарговым чынам, а ў пераважнай большасці выпадкаў, нават выключна, — мусіць весціся на беларускай і ўкраінскай мовах...» Далей святар Пянткевіч тлумачыў: «Манашкі, якім мы даручылі прытулак у нашай Альбярцінскай парафіі, дзяцей (усходніх, а не польскіх) на беларускай мове навучаюць і выхоўваюць, арганізуючы з імі батлейкі, рытмічныя танцы гномікаў і іншага роду пастаноўкі і гульні. Я сам нядаўна біскупа-візітатара ад імя двух абрадаў прамовай на польскай і беларускай мовах вітаў, а на ўрачыстай літургіі, здзейсненай уладыкам у Альбярціне, пасля адной ягонай прамовы на рускай мове прагучалі аж дзве беларускія споведзі. Таксама ў другой парафіі ў Сынковічах наш пробашч, блізкі сусед п. Есьмана, навучанне рэлігіі ў некаторых школах пастаянна вядзе на беларускай мове, а і з падрастаючай пазашкольнай моладдзю ладзіць пастаянна беларускія самадзейныя пастаноўкі і гутаркі... Мы палічылі неабходным стварыць таксама беларускі ўніяцкі штомесячнік пад загалоўкам «Да Злучэньня», ад студзеня гэтага года выдаем яго ў Альбярціне... і г.д.».

Уладзімір Пянткевіч моцна перажываў за лёс святой справы хрысціянскага аб'яднання. Дый узрост яго быў ужо немалы. Ён памёр ад сардэчнага прыступу 23 сакавіка 1933 года. Яму было 88 гадоў.

***

Штогод у Слоніме ў мікрараёне Альбярцін, дзе знаходзілася рэзідэнцыя айцоў езуітаў усходняга абраду, адбываюцца пілігрымкі вернікаў. Там цяпер стаіць памятны крыж. У 2000 годзе падчас адной такой пілігрымкі мясцовая старая жанчына-ўніятка прынесла з сабой фотаздымак першага протаігумена ўсходняга абраду а. Уладзіміра Пянткевіча з надпісам па-беларуску.

# В'етнамскі лэйбл і рух на Усход

Алесь ПЛОТКА

**У пачатку гэтага года ветэран беларускай электроннай музыкі Уладзіслаў Бубен выпускае свой міні-альбом на в'етнамскім лэйбле «Center C Recordings», які ўваходзіць у карпарацыю «Club G Music».**




Гэта першы альбом беларускага музыкі, які будзе выдадзены ў В'етнаме. Падобны рэліз на справе паказвае магчымасць прасоўвання беларускай музыкі на новыя рынкі. Альбом «Suitable Volume» эксклюзіўна выйшаў на сэрвісе Beat Port 26 студзеня, а іншыя анлайн-дыстрыб'ютары музыкі выставяць яго на продаж 9 лютага.

«У сваім вядомым хіце гурт «Pet Shop Boys» дэклараваў лозунг «Go West». Час ідзе, і геаграфічныя прыярытэты змяняюцца. Імклівае развіццё Паўднёва-Усходняга рэгіёну Азіі дыктуе новыя ўмовы для распаўсюджвання музычнай прадукцыі. Мільярды маладых людзей у краінах гэтага рэгіёну ўсё больш і больш цікавяцца новымі тэндэнцыямі ў музыцы, у тым ліку і танцавальнымі кірункамі, многія з якіх знаходзяць другое дыханне пад шчодрым азіяцкім сонцам», — кажа Улад Бубен.

Кампанія «Club G Music» — адказ в'етнамскай індустрыі на зацікаўленасць Захаду да краіны. У склад кампаніі ўваходзяць 13 лэйблаў, што выдаюць музыку ў розных стылях, а таксама ўключае агенцыю «Clubbing Vietnam», якая займаецца арганізацыяй вечарынак. З'яўляецца лідарам на рынку электроннай музыкі гэтага рэгіёну. Варта звярнуць увагу на тое, што для аптымізацыі сваёй дзейнасці ўладальнікі лэйблаў перасягнулі праз свае асабістыя амбіцыі і аб'ядналіся для дасягнення лепшых вынікаў.

Гэта не першы засвет беларускага электроншчыка на ўсходнім накірунку. Апошні альбом Baisanand Buben — Skweee Belarus дасяжны ў тым ліку на японскай платформе kkbox, а супольны з японскай паэтэсай Мары Кона альбом «Indepths of silence» выйшаў на лэйбле «Groove Butta Records».

# Лепшая польская стыпендыя для беларусаў

GFPS — гэта аб'яднанне студэнцкіх асацыяцый, некамерцыйных арганізацый, якія дзейнічаюць з 1984 года ў Германіі (GFPS e.V.), з 1994 года ў Польшчы (GFPS-Polska) і з 1999 года ў Чэхіі (GFPS-CZ). Унікальнай асаблівасцю GFPS з'яўляецца тое, што ў рамках яе студэнты арганізуюць дапамогу для іншых студэнтаў, не беручы платы за сваю працу. Дзякуючы тром партнёрскім арганізацыям на працягу амаль 30 гадоў дзейнасці больш за 1000 студэнтаў з'ехала за мяжу на стыпендыю, і яшчэ тысячы членаў маглі ўдзельнічаць у шматлікіх міжнародных праектах.

Пачынаючы з зімовага семестра 2013/2014 GFPS-Polska прадстаўляе стыпендыі для вучобы беларускіх студэнтаў у Польшчы.

Гэтым разам 2 шчаслівых атрымаюць магчымасць навуковага стажу на зімовы семестр 2015 (кастрычнік-люты) у любым з універсітэтаў Польшчы, а таксама ўдзел у шматлікіх праектах, а новыя знаёмствы з палякамі, немцамі, чэхамі і сапраўдная апека з боку GFPS-Polska будзе забяспечаны.

GFPS-Polska прапануе:

- стыпендыю памерам 1450 злотых у месяц;
- 5 месяцаў побыту ў адным з універсітэцкіх цэнтраў Польшчы;
- магчымасць працы над уласным навуковым ці культурным праектам;
- магчымасць наведвання заняткаў у найлепшых польскіх універсітэтах;
- апеку з боку лакальнай групы GFPS-Polska;
- удзел у трох семінарах;
- сяброўскія стасункі і незабыўныя ўспаміны на ўсё жыццё.

Прыём заяваў да 31 сакавіка. Кандыдаты, якія пройдуць першы этап адбору , будуць запрошаны на сумоўе у Мінску ў траўні. Умовы і правілы чытайце на сайце http://gfps.pl/pl/program-stypendialny/stypendysci-z-bialorusi. Заяўкі і пытанні дасылайце на адрас stypendia-by@gfps.pl

# Як убачыць новае ў звыклым

Ганна МЫЗЕНКА

**У Мінску ў рамках праекту «Вандроўкі ў мінулае» прайшла дабрачынная экскурсія пад назваю «Менск — горад пад аховай Божай Маці».**



Чаго такога асаблівага не бачылі мінчукі ў сталіцы, каб рабіць для іх экскурсію даўжынёю ў дзве з паловай гадзіны? Шмат чаго. Можна нават упасці ў ступар ад простага пытання экскурсавода Паўла Дзюсекава.

### Нечаканасці вандроўкі

Чаму мінскія пажарнікі абавязкова мусілі ўмець граць на музычных інструментах, а на пошце ніколі не ўзялі б на працу чалавека, які не адрознівае колеры? У якім старым фільме можна паглядзець на даваенны, не зруйнаваны яшчэ горад, і якое дачыненне мае жывая карова да будынку знакамітага Чырвонага касцёла? Якія неверагодныя прыгоды адбыліся ў Мінску з Наталляй Гусевай, выканаўцай ролі Алісы Селязнёвай — гераіні савецкага дзіцячага серыялу «Госця з будучыні», і з якога месца ў горадзе трэба пачынаць пошукі прывіду савецкага эратызму? І галоўнае: чаму мы адзіныя ў свеце маем герб, на якім Божая Маці нібыта «пляскае ў далоні»? Некалькі дзясяткаў удзельнікаў экскурсіі цяпер могуць смела «казыраць» новымі ведамі перад сябрамі і знаёмымі. Няма сумневу, шпацыр па родным горадзе зробіцца для гэтых мінчукоў крыху болей асэнсаваным. Мы ж не станем раскрываць інтрыгу экскурсіі.

### Адзін з дыджэяў адраджэння

Нават нягледзячы на слізкія ходнікі, да канца маршруту дайшлі ўсе ўдзельнікі экскурсіі. Звычайна ж Павел распачынае сезон у красавіку. Гэтым разам зрабіў выключэнне. Бо экскурсія па Мінску — ягоны выпускны праект на курсах «Дыджэі адраджэння», які вядзе палітык і грамадскі дзеяч Павал Севярынец.

На 12-месячных курсах, паводле задумы арганізатараў, рыхтуюцца людзі, здольныя быць грамадскімі лідарамі, ладзіць яскравыя мерапрыемствы, канцэрты, ладзіць разнастайныя шоў, крэатывіць у галіне PR, пры гэтым закладаць фундамент каштоўнасцяў для маладога пакалення. Сярод іх і наш экскурсавод.

**«Менск — горад пад аховай Божай Маці» — частка праекту «Вандроўкі ў мінулае»**

Спачатку ўдзельнікаў курсаў было 25 чалавек. Цяпер засталося трынаццаць. Дванаццаць чалавек, на словы арганізатараў, будуць залічаныя ў склад гэтак званага элітарнага ордэну Дыджэяў Адраджэння. «Курсы далі мне кантакты, — распавядае Павел, — курсы пашырылі далягляд, навучылі працаваць у камандзе, і курсы мне шмат чаго далі ў асабістым — у рэлігійным плане.

***— Зміцер Дашкевіч абяцаў падараваць пераможцы кацяня. Ці не баіцеся цяпер перамагчы? Бо прыйдзецца ж даглядаць...***

— Гэта самая вялікая фобія, таму што я памятаю Дашкевіча, — смяецца Павел, — але вельмі моцныя падабраліся супернікі, і Павел Булат, і Алесь Мазанік, і Павел Пракаповіч, мы зараз ідзем у чацвёрцы лідараў, таму я імкнуся пра перамогу проста не думаць, таму што працуеш, робіш, а 4 лютага будзе ўжо бачна, хто каго».

Аднак пра жывёлу Павел усё ж такі клапаціцца. Бо «Менск — горад пад аховай Божай Маці» — частка праекту экскурсавода «Вандроўкі ў мінулае». Усе экскурсіі ў ім — бясплатныя, але калі нехта з удзельнікаў хоча ахвяраваць грошы, то можа гэта зрабіць. Усе сродкі пойдуць на патрэбы прыватнага прытулку «Суперкот».

### Як зрабіць маршрут цікавым?

Маршруту «Менск — горад пад аховай Божай Маці» ўжо тры гады. Тым не меней, Павел усё роўна ўвесь час мяняе і ўдасканальвае яго. Бо ў стварэнні добрай якаснай экскурсіі без творчага падыходу не абысціся. «Я пішу ўсе свае маршруты ад першага да апошняга слова сам, я ўва ўсё гэта ўнікаю, я ўсё гэта даследую, — працягвае Павел, — 3 гады таму, калі арганізоўваліся знакамітыя фэсты экскурсаводаў, мне патэлефанавалі і сказалі: нам патрэбы маршрут пра легенды Мінску. Я сказаў: добра, будзе! Мне вельмі спадабалася так працаваць таму, што калі маршрут увесь твой, ты ў ім не схібіш, не палянуешся, ты ведаеш, што гэта тваё тварэнне, і ты мусіш яго прэзентаваць. Гэты факт дысцыплінуе, стымулюе, і ў выніку дазваляе ўвесь твой досвед, які ты набываеш, выкласці людзям.

***— «Вандроўкі ў мінулае» — дабрачынны праект. А чым вы зарабляеце?***

— Я працую з рознымі турфірмамі. Важу гасцей Беларусі ў Мір і Нясвіж, мінчукоў важу па Менску. Безумоўна, 90 працэнтаў тых груп, якія я важу па Мінску, — гэта расіяне. Але ўлічваючы, што ў іх пачаўся эканамічны крызіс, я не ведаю, што будзе з гэтым сезонам. Беларусаў на мае экскурсіі ездзіць мала. Гэта школьнікі, настаўнікі ў Дзень настаўніка, дзіцячыя сады, карпаратывы. Але такіх груп, на вялікі жаль, не вельмі шмат.

Звычайна для мяне самы вялікі паказчык, ці прыйдзе чалавек у наступны раз, я запамінаю твары людзей. Калі людзі прыходзяць, значыць, я разумею, што працую правільна. Я распавядаю так, каб зацікавіць людзей, каб яны прыйшлі яшчэ.

***— Калі адбудзецца ваша наступная экскурсія?***

— Я думаю, у красавіку, спадзяюся, што снег, якога зараз няма, не абрынецца на нас. А калі будуць нейкія прапановы, то магчыма пачну сезон і раней.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 160

Падпісана да друку 6. 02.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.